# СІЛА НАРОДНАГА СМЕХУ

Паважаны дружа чытач!

У томіку, які ты ўзяў у рукі, сабраны беларускі народны смех. Не ўвесь, вядома, а толькі нязначная частачка, бо ўвесь смех і сабраць немагчыма — ого, колькі яго ў народзе! Смех вечны і неперможны, як вечнае і непераможнае жыццё людское.

Ніхто не можа сказаць пэўна, калі наш далёкі продак упершыню засмяяўся, але было гэта, безумоўна, страшэнна даўно, і мабыць раней, чым ён упершыню заплакаў. Можа быць, ён засмяяўся першы раз тады, калі яшчэ нават не ўмеў гаварыць і калі аднойчы агледзеўся раптам, што ён ужо вельмі розніцца ад малпаў, і яны — хвастатыя, крывалапыя, касматыя — здаліся яму брыдкімі і смешнымі. Засмяяўся ад радасці, што ён чалавек, а не жывёліна, што ён мае розум і працоўныя рукі. Можа быць, гэта было так, а можа і не так. Але адно можна сказаць пэўна, што чалавек смяецца вельмі даўно і што смех зрабіў яго яшчэ больш разумным і дужым. Чалавек смяецца над усім тым ва ўласнай прыродзе, што стрымлівае яго пераможную хаду наперад — далей ад звярынага і жывёльнага, над усім тым, што перашкаджае яму спазнаць і адчуць на ўсю сілу, якое гэта шчасце — быць Чалавекам на зямлі, жыць між людзей па-людску, паважаць іх законы і звычаі, цаніць у людской грамадзе мір і дружбу, роўнасць і брацтва.

У гэтым зборніку, дарагі чытач, ты знойдзеш толькі некаторыя ўзоры беларускай народнай сатыры і гумару, а менавіта: анекдоты, жарты і досціпы, і проста цікавыя каламбуры. Адны з іх дайшлі з тых далёкіх і праклятых часоў, калі працоўны беларус жыў у няволі, пад прыгнётам эксплуататараў, быў пазбаўлены грамадзянскіх і звычайных чалавечых правоў. Другія — больш познія па паходжанні, нярэдка — яшчэ зусім «небарадатыя», новыя, у якіх своеасабліва адбіліся пэўныя з'явы і рысы нашага часу.

Большую ідэйную і мастацкую каштоўнасць маюць бадай-што першыя — творы, якія захаваліся ў народнай памяці як сведчанне непакорнасці і нязломнасці бела-

рускага «мужыка» ў яго барацьбе супраць трайнога — сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага — уціску. У жанравых адносінах — гэта часцей за ўсё анекдоты — кароценькія, без разгорнутага сюжэта, камічныя апавяданні, кожнае з якіх расказвае пра нейкі адзін тыповы жыццёвы факт, падзею або сітуацыю. Іх сатырычны зарад, як правіла, выбухае смехам у заключных, апошніх радках. Зместам і характарам сваім яны вельмі блізка стаяць да сацыяльна-бытавых казак. Гнеў, пагарда і з'едлівыя кпіны ў іх скіраваны на паноў, царкоўнікаў і іншых захрыбетнікаў, ад якіх гаротны чалавек заўсёды цярпеў, але і заўсёды адчуваў над імі сваю маральную перавагу. «Каб на панскую сілу ды не мужыцкая хітрасць — мужык прапаў бы»,— гаворыць народная прыказка. Смех гэтых твораў — сацыяльна завостраны, суровы і бязлітасны, яго асноўныя эмацыянальныя фарбы — іронія і сарказм.

Сатыра і гумар другой групы анекдотаў, жартаў і дасціпаў народных скіраваны супраць бюракратызму, крывадушша, ханжаства, хцівасці, уласніцкай маралі.

Трэцюю групу складаюць гумарыстычныя творы дабрадушнага, незласлівага характару (накшталт жартаў паляўнічых і рыбакоў), поўныя іскрыстай дасціпнасці і няўрымслівай выдумкі. Гэта смех, што ідзе ад дабраты душэўнай, ад вясёлага настрою, ад камізму сітуацыі.

Сатырычныя і гумарыстычныя народныя анекдоты — жанр надзвычай дэмакратычны і па змесце і па форме, ён у вышэйшай ступені выяўляе тую непадробную жыццёвую натуральнасць і прастату, якая ўласціва фальклору наогул. У гэтых анекдотах выяўляецца здаровы крытычны розум чалавека працы, дзейсная сіла народнай педагогікі. Гэта сведчанне сілы духу і невычэрпнай мудрасці народа, яго маральнага здароўя, яго непрымірымасці да ўсяго недарэчнага, забабоннага і закаснелага, што шкодзіць сацыяльнаму і грамадскаму прагрэсу.

Гэта — цудадзейная народная смехатэрапія, якая лечыць усіх і кожнага паасобку.

У гэтым — сакрэт незвычайнай жыццяздольнасці народных жартаў і такой жа незвычайнай іх папулярнасці.

*Ніл Гілевіч*



Суддзя пытаецца ў сведкі, ці чуў ён, як абвінавачаны лаяў пана.

— А як жа, пане суддзя, чуў.

— Дык раскажы, як ты чуў.

— Калі сорамна, пане суддзя.

— Нічога, кажы, бо гэта абавязкова патрэбна для справы.

— Калі так, дык слухайце, пане суддзя. Ён лаяўся «ты дурань», пане суддзя, «ты быдла рагатае», пане суддзя, «ты ашуканец», пане суддзя, ты...

Суддзя. До, до, до! Хопіць, больш не трэба.



На станцыі ў буфеце сядзіць селянін і перакусвае. Каля яго стаіць пан і есць курчо. Паглядзеў пан на селяніна дый голасна кажа:

— Эх, і стаў жа цяпер народ! — што мужык, то і свіння.

— Няпраўда,— адказвае селянін,— свіння заўсёды есць стоячы, а мужык седзячы.



Старэнькі селянін, прыехаўшы ў горад, заходзіць у шыкоўны магазін і пытае:

— Ці не тут прадаюцца хамуты?

— Не, стары,— адказваюць яму два франты,— тут прадаюцца толькі дурні.

— Бач! — круцячы галавою, дзівіцца стары.— Відаць, і торг ідзе добра, бо толькі два і асталося.



— Ці сапраўды вы мне сказалі ўсё так, як было фактычна?

— Сапраўды ўсё, пане адвакат! Чыстая праўда! А вы ўжо можаце махляваць ад сябе.



— Ну, як тамака ваш новы пан? Добры?

— Нічога сабе, толькі і бяда — мае вушы ў нагах.

— Якім жа гэта парадкам?

— А так: калі, гаворачы да яго, не нахілішся ажно да калень, дык нічагусенькі не чуе.



Хлапчук вёў на вяроўцы цяля, якое кідалася ва ўсе бакі. А тут якраз ураднік праязджаў.

— Ты чаму перада мною шапкі не знімаеш, хам?! — закрычаў ён на хлапца.

— Калі ж мае рукі заняты, пане ўраднік. Злезце, калі ласка, з воза, патрымайце цяля, а я шапку зніму.

Пан пад наглядам старшага конюха адсылаў свайго любімага каня на выстаўку. Па дарозе жарабец здох, і конюх рапартуе пану:

— Міласцівы пан, сівы жарабец здох, скуру вашу панскую здзёр і прадаў, а за грошы для вашай міласці хамут моцны купіў, аб чым данашу і шчыра дзякую.



Едуць пан з кучарам. Пан і гаворыць:

— Во, убіў я зайца, дык з яго сала было з цэлы пуд.

А кучар яму:

— Во, пане, будзем ехаць праз мост, дык там чорт брахуноў хапае.

— А далёка той мост?

— Ды не, — кажа кучар, — во за гэтым лесам, дзе горка, а там луг, а там ужо зусім блізка.

Як уехалі яны ў лес, пан зноў кучару:

— Каб ты бачыў таго зайца! Аднаго сала яго было хунтаў з дзесяць.

Едуць яны далей, праехалі ўжо лес, дык пан:

— Ну, можа, не дзесяць, але ж хунтаў пяць з таго зайца сала было.

А як пайшла дарога лугам, дык пан ужо:

— Ну, хоць сала на ім не было, а ўсё ж заяц быў і не такі худы.

Едуць яны далей. Праехалі луг, грэблю, а моста ўсё няма.

— А дзе ж той мост? — пытае пан.

— А разышоўся, як заечае сала.



— Пойдзем, куме, у царкву.

— Хто яго ведае: я не такі набожны, каб гэтак часта хадзіць. От бацька мой, дай божухна спакой яго душачцы, быў надта набожны. Бывала, калі царква і зачынена, то ён або падкапаецца, або акно выдзера, а ўсё ж улезе.



С у д д з я. Ваша імя?

С в е д к а. Чыё, маё?

С у д д з я. Ну, але, ваша.

С в е д к а. Тодар Хрэн.

С у д д з я. Дзе нарадзіўся?

С в е д к а. Хто, я?

С у д д з я. Ды, ведама ж, вы! Я ж гавару з вамі адным.

С в е д к а. У вёсцы Трыбушкі.

С у д д з я. Колькі вам гадоў?

С в е д к а. Каму, мне?

С у д д з я *(злосна)*. Не, мне!

С в е д к а *(спакойна)*. Я думаю, што вам гэтак, на вока, гадоў 40—45 будзе.



Лысы суддзя дапытвае селяніна.

— Што прымусіла цябе не заплаціць падатак?

— Нічога не вырасла, паночку,— адказаў селянін,— зямля пустая.

Суддзя паказаў пальцам на зямлю і дадаў:

— Калі б ты, гультай, захацеў, дык і на пустой зямлі вырасла б што-небудзь!

Селянін паказаў пальцам на лысіну суддзі і запытаў:

— А хіба на тваёй галаве, паночку, штокольвечы расце, калі яна зусім пустая?



— Чаму, пане, у вашым агародзе няма ніводнага пудзіла ад вераб'ёў?

— Гэта непатрэбна — мая жонка там увесь дзень тырчыць.







Адвакат пытаецца ў абвінавачанага:

— Мне трэба ведаць для арыентацыі, ці вы сапраўды вінаваты ў гэтай справе ці не?

— А што ж вы, пане абаронца, лічыце мяне за дурня, ці што? Нашто ж я вам дзвесце залатых плаціў бы, каб не быў вінаваты.



— Сведка, як ваша імя і прозвішча?

— Мікола Касаты.

— Колькі гадоў?

— Восемдзесят два.

— Дзеці ёсць?

— Нямашака.

— Сакратар, запішыце, што дзяцей няма. Ну, расказвайце, Касаты, што вам вядома ў гэтай справе.

— Іду я, значыцца, са сваім сынам Гаўрылам...

— Пачакайце. Вы ж казалі, што ў вас дзяцей няма?

— Але, няма...

— Ну, кажыце далей.

— Іду я з сынам Гаўрылам праз поле...

— З сынам Гаўрылам? Вы ж кажаце, што ў вас дзяцей няма.

— Ну, няма.

— А сын Гаўрыла?

— Якое ж гэта дзіця?.. Яму ўжо пяцьдзесят гадоў стукнула.



Адзін слуга падаў пану есці: верашчаку, курыную лапку ды ўсяго іншага...

Сеў пан есці. Узяў ён талерку з верашчакаю ды і выкінуў у акно. Слуга ўслед за ім пахапаў відэльцы, лыжку і астатнюю страву і таксама пакідаў за акно.

— Што ты робіш?! — закрычаў пан.

— А я думаў,— адказаў слуга,— што вы збіраецеся палуднаваць на свежым паветры.



Пан. Я вас прасіў прынесці віна бутэльку і кубак вады.

Слуга. Вада, паночку, ужо ў віно наліта.



— Вы прызнаеце сябе вінаватым у тым, што абразілі пана Казлоўскага, назваўшы яго дурнем?

— Якая ж гэта абраза, пане суддзя, калі ён сапраўды дурны?

— Усё роўна няможна, гэта абраза асобы.

— А калі дурня ды назваць разумным — гэта можна, пане суддзя? Гэта не будзе абразай?

— Гэта можна.

— Які ж вы разумны, пане суддзя.



Вязе селянін гонту, а насустрач едзе пан.

— Звруць з дарогі! — гукае пан.

— Не, не вельмі дарагі, тры залатых за капу.

— Скон ты? — пытае пан.

— Але, паночку, за гонту! — адказвае селянін.

— З якей ты всі? — пытае пан сярдзіта.

— Дзе там у чорта ўсё, яшчэ на тры вазы не забярэш!

— З дарогі з'едзь, даўганосы! — злуе пан.

— Калі ласка! — адказаў селянін і ўзяў свой нос ды павярнуў убок, кажучы:— Едзь, панок, калі табе мой нос перашкаджае.



Жыў-быў адзін пан, і ў яго нарадзіўся сын. Уся дворня задумалася, як найлепш пакланіцца пану. А іх аканом так навучае: «Гасцінца яму прынясём. Я буду ісці першы, на галаве буду несці яму поўную карзіну яек, старшыня — варону, а стараста — маслёнку. Як прыйдзем, я буду першы гаварыць. Ты, старшыня, скажы: «З усім дваром», а ты, стараста, скажы: «З дзецьмі і з жонкай», а ты, парабак, скажы: «З усім сваім набыткам».

Прыйшлі яны да пана ў пакой. У аканома вяроўка развязалася ад лапця, і, як парабак увайшоў, наступіў наўмысля на вяроўку, ака-

ном паваліўся і крычыць: «Бадай ты прапаў!» Старшыня не пачуў, што аканом крычыць, і кажа: «З усім дваром», а стараста: «З дзецьмі і з жонкай», а парабак: «З усім сваім набыткам».



Адзін панок завёў сабе тэлефон. Жадаючы пазухаваць перад суседам, панок і кажа яму, стрэўшы ў воласці:

— А каб ты ведаў, як прыемна размаўляць праз тэлефон! Вось я табе пакажу. Зараз я скажу сваёй жонцы, каб яна чакала нас на абед.

Ён пазваніў да сябе дадому і сказаў:

— Жонка, я зараз прыеду абедаць з панам Хвальніцкім, я запрасіў яго.— І, абярнуўшыся да Хвальніцкага, прамовіў:— А цяпер прылажы борздзенька вуха да трубкі і слухай, што будзе адказваць мне мая гаспадыня.



Хвальніцкі прытуліў да вуха трубку і пачуў:

— Ах, ахвота табе, Антон, клікаць да сябе на абед усякую брыдоту!



Прынесла бабуля суддзю кошык груш. Суддзя бачыць, што гасцінец не вельмі, дый кажа:

— Нашто ты, бабка, прынесла? Твае ж бы дзеткі зласавалі.

— А дзеткі, панок, і так пабудуць. Я ім скажу — свіння з'ела.



Сустракаюцца два паны, едучы паркаю коней. Дарога была завеяна, дык паны не хочуць уступаць дарогу адзін аднаму. Стаяць



на месцы, спрачаюцца. Панская кроў гарачая, дык ужо за стрэльбы хапаюцца.

Праходзіў каля іх селянін, затрымаўся дый слухае.

— Вось скажы, Даніла,— пытаецца ў яго адзін пан,— хто каму павінен уступіць дарогу?

— Вядома ж,— адказвае Даніла,— што заўсёды лепей дурню ўступіць.

— Эх ты, дурань! — крычыць адзін пан, зварочваючы з дарогі.

— Ты сто разоў горшы дурань! — крычыць другі пан, абмінаючы першага.



Адзін чалавек недалёка ад дарогі капаў яміну. Міма ехаў знаёмы пан ды і гаворыць да гэтага чалавека:

— Добры дзень табе, Мікалаю!

— Але, паночку, яміну капаю.

— А чый гэта фальварак?

— Гэта мая саха і падпалак.

Бачыць пан, што чалавек не знае, што гэта за фальварак, сказаў папросту:

— Чый гэта двор?

— Гэта мой чорны вол.

— А як яго прозвіска?

— Як здалёку, так і зблізку.

— Ці ты, Мікалаю, глух?

— Але, паночку, я з сынам удвух.

— Ці многа вас такіх на свеце дуракоў?

— Наклаў дзежачку буракоў, а капуста не ўрадзіла.

Пан бачыць, што чалавек смяецца з яго, раззлаваўся і паехаў далей.



— Ты куды спяшаешся?

— Лячу ў суд!

— Дык мы з табой не хутка ўбачымся.

— Чаму — я хутка вярнуся!

— Не, братка... Мой адзін знаёмы пайшоў на пару гадзін, а вярнуўся... цераз два гады.



Пан-абшарнік наняў для свайго сына настаўніка, які паходзіў з сялянскай сям'і. Вітаючыся з ім, пан пагардліва падаў яму адзін палец рукі.

— Вялікі гонар, пане! Цэлы палец для мяне зашмат, вось вам, пане, паўпальца здачы,— адказаў настаўнік, падаючы пану скручаную дулю.



Следчы робіць агляд месца, дзе адбылося злачынства, а яго пісар запісвае ў пратакол:

«...на стале знайшлі бутэльку з зуброўкай...»

— Э, пачакайце,— кажа следчы,— трэба

пакаштаваць, ці тут праўдзівая зуброўка? Гэта вельмі важна для справы.



Пакаштаваў і кажа:

— Пішыце: «У бутэльцы была зуброўка».

— Не, гэта, здаецца, была не зуброўка, а пярцоўка,— кажа пісар і [illegible]сама глынуў з бутэлькі.

— Не можа быць? — здзівіўся следчы і яшчэ раз прылажыўся да бутэлькі.

— А што? Пярцоўка,— стараўся пераканаць яго пісар і яшчэ са смакам глынуў.

Паціснуў плячыма следчы ды і кажа:

— Пішы ў пратакол, што на стале

знайшлі парожнюю бутэльку і ніяк не маглі даведацца, што ў ёй было.

У мокрадзь ехалі два паны. Коні памаленьку шлёпалі па гразі. Гутарка не клеілася. Ехалі і маўчалі. Раптам адзінываліўся ды, лежачы ў гразі, звяртаецца да другога:

— Ну і пагодка ж, каб яна прапала... А як ты думаеш?

Той маўчыць. На другі дзень толькі, як сам зваліўся, адказаў:

— Так, суседзе, дрэнная.



— А ці ведаеце, што гэтыя вашы штучкі турмою пахнуць?

— Скуль жа мне ведаць, калі мне нос так залажыла, што ніякага паху не чую.

С у д д з я *(да сведкі)*. У суд трэба прыйсці крыху лепш выглядаючы: трэба пагаліцца, памыцца — не як быдла.

С в е д к а. О-о-о! Выбачайце!.. Я галіўся, і вымыўся, ды толькі пакуль чакаў, барада вырасла ізноў.



Пані з брыдкім і страшным тварам, наняўшы фурманку, пытаецца ў фурмана:

— Ваш конь не выверне, ён не баязлівы?

— Нічога, сядайце, ён не будзе назад аглядвацца.



Адвакат выбавіў кліента ў вельмі цяжкім працэсе. Па добрай для яго пастанове суда кліент дзякуе:

— Пане адвакаце! Як жа мне выразіць сваю ўдзячнасць за такое добрае развязанне справы? Чым я вам аддзякую?

Адвакат. Няма аб чым гаварыць, каханы кліенце! Ад таго часу, як выдумалі грошы, такіх пытанняў не ставіцца.



Панок. Ваша сядзіба мне вельмі падабаецца, пане гаспадар. Я ахвотна наняў бы ў вас на лета гэтае памяшканне, калі б толькі вунь гэты свінарнік не стаяў так блізка ля хаты.

Гаспадар. Але ж гэта, паночку, свінням не шкодзіць. Тут кожнае лета жыве хворая пані, а ў мяне, дзякуй богу, яшчэ ніводная свіння не здохла ад гэтага.



— Дарма вы з сабою сведку прывялі... Сведкі ў нас у канторы заўсёды ёсць...

— Так, але яны мяне мо і не ведаюць.

— Ведаюць! У нас такія сведкі, што ўсіх ведаюць.



Едзе раз сабе адзін пан, і акурат папала яму ехаць цераз адно сяло, а каля сяла стаіць двор. Пан спыніўся ў гэтым сяле і пытае ў аднаго чалавека:



— Чалавечку! Хто гэты двор трымае?
— А што,— кажа,— паночку, як новы быў, то сам стаяў, а цяпер, як стары стаў, то на лісіцы ўзялі.
Пан задумаўся і не ведае, што гаварыць, а пасля пытае:
— Хто ж у вас старшы?
— Старшы, пане?



— Але! — кажа пан.

— У нас ёсць адна старая баба, ёй, дальбог, ёсць гадоў ужо з осемдзесят, то яна найстарэйшая за ўсіх у гэтым сяле.

— Не, чалавечку, я не аб тым табе гавару, я не аб тым цябе пытаю.

— А аб чым жа, пане?

— Я хачу цябе спытаць: каго ў вас слухаюць?

— Ага! Слухаюць? Ёсць, паночку, у нас у сяле адзін хлопчык, гадоў сямі або дзевяці, то як зачне граць на дудачцы альбо на скрыпачцы, то ўсё сяло збягаецца і слухае.

— Ды няхай цябе, чалавечку, д'яблы возьмуць, у цябе ніякай праўды не дабіцца.

І паехаў пан сваёю дарогаю, а чалавек пастаяў, пасмяяўся з таго пана, ды і толькі таго.

На другі дзень прывозіць гэты чалавек дровы ў горад на продаж. Прыехаў туды і той пан авёс купляць і, усюды ходзячы, пытае то ў сяго, то ў таго: «Ці няма аўса, ці не чутно аўса?» Ну і якраз натрапіў на таго чалавека, што дровы прывёз.

— Чалавечку! Ці не чутно тут дзе аўса?

— Аўса?

— Але,— кажа пан.

— Пастой, паночку, зараз!

Узлез чалавек на свой воз, на дровы, і ветрыць носам. Паветрыў, паветрыў і кажа:

— Не, паночку, не чутно!

— Што тут за д'ябал! — кажа пан.— Ці не ўчарашні ты, чалавечку?

«Бадай цябе ў роў, паночку, вывалілі!» — падумаў сабе чалавек, а пасля кажа:

— Што ты, паночку, мне будзе гадоў больш як за сорак, а ты кажаш, што ўчарашні!

Пасля гэтага яны разышліся і больш не бачыліся.



Жабрак. Прашу ласкі, пані, даць мне што-небудзь з'есці.

Пані. Пачакай крыху, зараз прыйдзе мой муж.

Жабрак. Дзякую, я людзей не ем.



— Сорамна вам так часта пападацца ў суд! — кажа суддзя да падсуднага.

— Не дзіва, ваша-скароддзе! Чалавек адзін, як той кол, а ў вас проці яго тысячы ўсялякіх стацей... Не штука, дык за каторую кольвечы дый зачэпішся,— адказвае падсудны.



Суседкі пасварыліся, і Акуліна дала Агаце дулю. Агата падала ў суд. Але не «падмазала». Суддзя сказаў:

— За дулю не судзім.

— Ага, не судзіце... То на ж і табе, пане суддзя, на і табе, падсудак! — абдзяліла Агата ўвесь суд здаравеннай дуляй і пайшла дамоў.



Валасны старшыня з пісарам, забраўшы за падаткі подсвінка ў адной кабецiны, каторая была другі раз замужам, так запісалі ў пратаколе: «Забралі ў Марысі С. за падаткі подсвінка з першага замужаства».



Пан, спаткаўшы старчыху, кажа:

— Я ўжо раз казаў, што здаровым нічога не даю!

— Дык што гэта, пан? Хочаш, каб я дзеля гэтых колькі грошаў халеры дастала, ці што?



Адзін мужык вылаяў і прыбіў да паўсмерці нейкага чалавека. Прыйшла павестка ад міравога, каб явіўся на суд. Бачыць мужык, што будзе дрэнна, ідзе да адваката і просіць яго, каб навучыў, як тут выкруціцца. Адвакат і кажа: «Прыкінься дурнем, як запытаецца міравы, ты і кажы: «Ну дык што?», як другі раз запытаецца — «А яшчэ што?». Мужык так і зрабіў. З'яўляецца на суд, яго міравы і пытае:

— Ты такі та і такі та?

— Ну дык што ж?

— Цябе абвінавачваюць у тым, што ты пабіў такога та і такога та.
— Ну, а яшчэ што?
— Дурань, адказвай на пытанні.
— Ну дык што?
Парашылі, што ён дурань, і адпусцілі. Сустракае яго адвакат:
— Ну, бачыш, як я табе памог?
— Ну дык што?
— А варта б за навуку што-кольвечы даць.
— А яшчэ што?
— Як што, ты павінен мне заплаціць.
— Ну дык што?
Адвакат плюнуў і пайшоў ад яго, а мужык, ухмыляючыся, вярнуўся дамоў.



Суддзя (*да абвінавачанага*). Чаго ты прыйшоў сюды з калом?
Абвінавачаны. Мой адвакат сказаў мне, каб я меў у судзе чым абараняцца.



Кажуць, адзін пан дужа любіў ганарыцца сваім сынам, што ён у яго самы здаровы і прыгожы, ва ўсёй воласці такога не знойдзеш. Калі ні прыязджалі да яго госці, ён сына выстаўляў напаказ. Тыя таксама былі амаль такой думкі, як і сам пан.

І вось аднойчы пану ў галаў прыйшла думка: запытацца ў сваёй чэлядзі, ці праўда, што яго сын такі. Паклікаў ён да сябе лакея і пытае:

— На каго падобны мой сын?

Той думаў, думаў і кажа:

— На льва.

— Адкуль ты гэта ўзяў? Ты ж нікуды не ездзіў. Дзе ты мог бачыць ільва?

— А на карціне. Ісус Хрыстос едзе з Ерусаліма.

— Ён там на асле.

— Во, во! Ён на яго і падобны!



Урач 1-шы. Чым ты хворы?

Селянін. Уся спіна, мой родны, баліць.

Урач 2-гі. На маю думку, прычына хваробы — станавы хрыбет.

Селянін. Ну так і ёсць, даражэнькі, станавы ўсё па хрыбце дубасіў.



Селянін прыходзіць да доктара. Доктар яго агледзеў і вымагае плату. Селянін дае грыўню.

— Выбачайце,— кажа доктар,— каму вы даяце гэтую грыўню — мне ці служанцы?

— Мне здаецца, паночку, што хопіць вам на двох.



Убачылі мужыкі ў горадзе гармату — глядзяць і дзівяцца.

— Во,— кажа адзін,— каб яе добра набіць, то, пэўна, на ўвесь горад раўнула б.

Аж праходзіў тут нейкі паніч ды пачуў, што яны казалі.

— Эх,— кажа,— што гэта за гармата! Вось у Маскве я бачыў гармату, вось гармата дык гармата: у рулю дык з возам сена ўехаць можна.

Адзін мужык падумаў і кажа:

— Што за дзіва! Во ў нас у вёсцы было здарэнне, што, пэўна, паніч і не чуў, не толькі не ведаў.

— А што ж такое?

— А,— кажа,— меўся да нас нейкі начальнік прыехаць. Ну, дык як яго спаткаць найлепей. Вось адзін адстаўны салдат і радзіць: «Ёсць у нас гармата старая, ад шведа ці ад француза асталася, дык яе,— кажа,— вычысціць, а як будзе ехаць начальнік, дык і выстралім на павітанне». А была яна заржавеўшы. Салдат узяў сала, вычысціў добра ўсярэдзіне, памазаў і чакае, набіўшы яе, як выстраліць.

Тым часам, пакуль начальнік прыедзе, разышліся дамоў. А міма бег сабака, пачуў сала, стаў лізаць і ўлез усярэдзіну. Тут крыкнулі, што едзе начальнік. Салдат падбег і запаліў гармату. Як выстраліць яна, як выкіне сабаку, як забрэша сабака, дык якраз як во гэты паніч цяпер.



— Вось у нас плывец: паўгадзіны пад вадой сядзіць — думаем, патануў, а ён, бачыш, і выплыў.

— Э-э... гэта нішто ў параўнанні з нашым старастам. Ён сядзеў пад судом год — і то выплыў.



Стараста нечым дагадзіў пану. І той запрасіў яго да сябе на гарбату.

— Пі без цырымоніі,— буркнуў пан.

Трымаючы шапку ў левай руцэ, стараста адну за другой выпіў некалькі шклянак пусто-

га кіпню і, нарэшце, паказваючы на цукар, узмаліўся:

— Паночку, дазвольце хоць адну шклянач-ку з цырымоняю...



Было гэта яшчэ тады, калі бог хадзіў па зямлі пешкі, каб даваць людзям парады.

Вось ідзе ён па полі. Падыходзіць да Кузьмы, які толькі што жыта пасеяў. Пад жыта ён увесь гной з хлява вывез. Зямлю добра ўгноіў.

Звяртаецца бог да Кузьмы:

— Няхай бог памагае, добрае жыта пашле.

— Сам знаю, што парасце. Каб не ўкінуў столькі гною, дык і бог не памог бы.

Праз два тыдні пайшоў Кузьма з суседам глядзець, як жыта ўзышло.

На суседняй палосцы жыта зелянела па ўсёй раллі, а на Кузьмовай купкамі, чубамі стаяла.

Глянуў сусед на Кузьмова жыта і дакарае:

— Каб ты не зневажаў бога, дык і ў цябе роўна ўзышло б жыта, а то сам бачыш — лапінамі, дзе бог ступаў нагою, там не ўзышло.

— Чаго ж ты не сказаў тады мне, што гэта быў бог! — усклікнуў Кузьма.— Прывязаў бы я да бараны яго, пабаранаваў бы ўсю раллю, дык і ў мяне жыта не расло б лапінамі.



Падгаладаўшы пан завітаў у леснічоўку — падсілкавацца... Лесьнічыха спякла яечню і паставіла пану.

Пачуўшы гэткі смачны пах, пяцігадовы Гаўрык клубком скаціўся з печы і палез пальцамі ў патэльню.

— Не руш,— прашыпеў пан, ляпнуўшы нажом хлапчуку па пальцах.

Гаўрык пацягнуўся другою рукою, але атрымаў тое ж.

— Мама, пан — нажом! — зарумзаў хлапчук.

— А ты — лыжачкай, сынок, а ты — лыжачкай! — гукнула маці ад печы.— Ты ж не пан, каб нажом дзяўбаць.

— А, пся крэў, галган! — зароў пан, калі Гаўрык, не пазнаўшы жартаў, здзяжыў яму драўлянай бацькавай лыжкай па лбу.



Аднойчы ў царкве за споведзь старая бабулька дала папу бутэльку самагонкі. Поп схаваў бутэльку ў кішэню і пачаў маліцца, адбіваць паклоны.

Неяк бутэлька вывалілася ў папа з кішэні і пакацілася па падлозе. Усе, хто быў у царкве, убачылі гэта. Папу стала няёмка, але ён не разгубіўся. У царкве вісеў вялікі абраз «Тайная вячэра». Ён павярнуўся да абраза і сказаў на ўсю царкву:

— Святыя! Вы там калі п'яце, дык піце, але бутэлек сюды не кідайце!



Сабраліся неяк тры ксяндзы і расказваюць, што робяць тады, калі іх спакушае нячысцік.

— Я сябе бічую,— кажа адзін.

— Я малюся ў гэты час.

А трэці, старэйшы з іх:

— А я клічу пакаёўку: «...Зося! А ну хутчэй бяжы сюды!..»



Запыталі ў аднаго дзяка, колькі ён можа выпіць гарэлкі. Падумаў дзяк і ў сваю чаргу пытаецца:

— Адразу ці паступова?

— Паступова.

— А з закуссю ці без онай?
— З закуссю.
— А за свае грошы ці за кошт раба божага?
— За кошт раба божага.
— О,— кажа дзяк,— калі так, то ў неабмежаванай колькасці.





Аднойчы дзяк прапанаваў прыгадаць некалькі запаведзей, якіх, на яго думку, не прытрымліваюцца парафіяне.
— Гарэлкі не піць,— цягне дзяк.
— Амінь,— гугнявіць святы айцец.
— Не красці.
— Амінь.

— Чужых жонак не спакушаць.

— О! — усклікнуў пры гэтых словах поп, стукнуўшы пальцам сабе ў лоб, і, як ашалелы, памчаўся з царквы.

— Што з вамі, бацюшка?! — закрычаў перапалоханы дзяк.

— Успомніў, дзе я ўчора галёшы забыў,— пачулася ў адказ.



Заўважыў ксёндз, што арганіст — хітрэц і хапуга.

— Хадзі,— кажа,— выспавядаю, а то на тым свеце чэрці цябе па вушы ў смалу засадзяць і гарачую патэльню лізаць прымусяць.

— Ну, што ж! Спавядацца — дык спавядацца.

Сеў ксёндз у спавядальню, а арганіст ля акенца ўкленчыў.

— Касцельнае віно піў? — пытае ксёндз.

— Не чутно нічога,— адказвае арганіст.

— З касцельнай скарбонкі грошы выбраў?

— Зусім нічога не чуваць,— кажа ізноў арганіст.

— З маёй каморы каўбасы выцягнуў?

— Ну, анічагусенькі не чуваць,— адказвае арганіст.— Не верыце, дык вось хадзіце сюды і праверце самі.

— Што за ліха? — кажа ксёндз.— Дай праверу!

Памяняліся месцамі. Арганіст сеў у спавядальню, а ксёндз ля акенца ўкленчыў.

— Да маёй бабы начаваць хадзіў? — пытае арганіст.

— Паслухай, сыне мой. Тут сапраўды нічога не чуваць,— замармытаў ксёндз.



— Чаму гэта, куме, не ходзіш у царкву? Як табе не сорамна?

— Ото ж мая жонка, як прыйдзе свята, заўсёды крычыць на мяне за гэта, але я праз яе крык не магу пачуць, калі звоняць.



У час пропаведзі адзін дзядзька заснуў. Поп спыніў пропаведзь, падышоў да яго і кажа:

— Прачніся, грэшнік!

На тое стары адказаў:

— Самі вы, бацюшка, грэшнік: адважыліся мяне разбудзіць якраз у той час, калі я самога Хрыста сніў.



Пытаецца малы Панас у бацькі:

— Татка, а татка, чаму гэта паны ўсё збожжа за граніцу вывозяць, а чым жа мы будзем карміцца, як свайго не стане?

— А ці ж не чуў, як ксёндз у касцёле казаў: «Прывыкайце, дзеткі, жыць святым духам».



Манах і ігумен вядуць спрэчку.

— Ойча, ці бог усемагутны?

— Усемагутны!

— А чым ён пакрые казырнага туза?

— Ды ён з табой, дурнем, і гуляць не стане.



Аднаго дня, калі ксёндз адпраўляў імшу, чалавек прыйшоў да плебаніі. Там нікога на тую пару не было.

Не трацячы ні адной мінуты, чалавек палез у печ, выцягнуў мяса з капусты і з'еў, перад абразом вісеў капялюш — ён узяў яго, у ка-



модзе былі грошы — ён і іх падзяліў папалам ды пайшоў на споведзь.

— Ну, якія маеш грахі? — пытаецца ксёндз.

— Адзін грэх, ойча духоўны! Свінню з капусты выгнаў.

— Дужа добра! Так заўсёды трэба.

— Другі грэх — брыль зняў перад абразамі.

— Дужа добра! Кожны раз трэба знімаць шапку ці брыль перад абразамі.

— Трэці грэх — грошы з ксяндзом падзяліў.

— Гэта таксама не грэх. Заўсёды трэба помніць пра ксяндза.

Прыйшоў ксёндз да плебаніі, сабраўся падсілкавацца... і тут здагадаўся, што злодзей меў на ўвазе на споведзі.

Пайшоў ксёндз да суддзі і далажыў аб крадзяжы.

— Ты ўкраў? — пытае суддзя ў чалавека.

— Я, але я сам прызнаўся айцу духоўнаму, і ён хваліў, казаў: «Дужа добра».

Суддзя адпусціў чалавека, а з ксяндза пасмяяўся.



Сустрэліся на кірмашы два чалавекі. Абодва ў капелюшах і ў плашчах.

— Вы, відаць, поп? — пытаецца адзін.

— Так, так. Скажыце, а як вы здагадаліся?

— Ды вельмі ж пуза ў вас вялікае. Да таго ж і вочы нахабныя.

— Сам ты нахабны.

— А вы не памыліліся — я таксама поп.



Янка, вучань царкоўна-прыхадской школы, ніяк не мог запомніць на ўроку закону божага гаварыць у канцы малітвы: «У імя айца і сына святога духа — амінь!» Дзячок, які выкладаў закон божы, рашыў дапамагчы Янку. «Вось, Янка, глядзі,— сказаў ён,— у цябе на сарочцы тры гузікі. Першы будзе — айцец, другі — сын, а трэці — святы дух».

З таго часу Янка свае справы па закону божаму паправіў.

Аднойчы прыехала ў школу камісія.

На ўроку закону божага дзячок выклікаў Янку. Усё ішло добра. Пачаў нарэшце Янка чытаць апошнія словы малітвы: «У імя айца і сына... гы-ы-ы...»

— Чаго ты, Янка, плачаш? — спытаў дзяк.

— А маці святога духа ў штаны перашыла...— скрозь слёзы адказаў Янка.



Быў адзін ксёндз вельмі хітры. Неяк раз сказаў ён на богаслужэнні, што ў нядзелю касцёл наведае святы дух. Цэлы тыдзень маліўся ксёндз, каб адбыўся цуд. Але нічога не выйшла. Тады паслаў ён аднаго хлапца на сяло, каб ён купіў белага голуба і занёс на гарышча. А там былі маленькія дзверцы, праз якія птушка магла вылятаць пад столь. У нядзелю, калі веруючыя пачалі збірацца ў касцёл, ксёндз паслаў хлапца на гарышча і сказаў:

— Як толькі я ў касцёле скажу: «Святы дух, сыдзі на нас»,— дык ты ўпусціш гэтага галубка ў касцёл.

Хутка ксёндз пачаў малебен і, падняўшы рукі ўгору, прагаварыў:

— Дух святы, сыдзі на нас!

Угары адкрыліся дзверцы. На ўвесь касцёл адтуль пачуўся хлапечы голас:

— Няма, дабрадзею, яго... кот з'еў.



Старэнькі попік папракаў дзячка:

— Як табе не сорам на матаролеры раскатваць. Сам Хрыстос на асле ездзіў і нам завяшчаў.

— Бяда, святы айцец,— апраўдваўся дзяк,— аслоў з кожным годам усё меншае.



Сустрэліся на тым свеце поп і ксёндз. Поп аж па шыю ў гарачай смале сядзіць, а ксёндз ледзь-ледзь пяткі ў смалу памачыў.

— Няўжо ты менш за мяне грэшны? — пытаецца поп.— Я пакутую, а табе — хоць бы што?

— Гэта залежыць ад таго,— гаворыць ксёндз,— хто на чым стаіць. Я, напрыклад, у рымскага папы на галаве ўладкаваўся.



На імянінах у папа ў адной госці ўкралі залатую бранзалетку. Гаспадар, каб пазбегнуць непрыемнасці, заявіў:

— Я прапаную, дарагія госці, паставіць пасярэдзіне хаты паднос і на некалькі секунд патушыць святло. Той, хто гэтак няўдала пажартаваў, будзе мець магчымасць палажыць бранзалетку на паднос, не запляміўшы сваёй годнасці.

Калі зноў запалілі святло, дык, на агульнае здзіўленне, выявілася, што знік і срэбны паднос.



Поп спавядае селяніна і пытае ў яго:

— Чым грэшны?

— Не ведаю.

— Можа рабіў што кепскае?

— Не.

— Можа што нядобрае падумаў? Гэта ўсё роўна грэх,— павучае поп.

Кончылася споведзь. Селянін пытаецца:

— А што вам, бацюшка, за фатыгу?

— Залатоўку,— адказвае поп.

Выняў селянін залатоўку, палажыў, а як толькі поп працягнуў руку, селянін схаваў назад у кішэню залатоўку і кажа:

— Гэта ж, бацюшка, усё роўна: ці я вам даў залатоўку, ці толькі хацеў даць.



Пяцігадовы хлапчук убачыў на вуліцы айца Гаўрылу:

— Мамачка, гэты поп, мусіць, дурны, бо, як памерла наша бабуля, усе плакалі, а ён адзін спяваў.



Дзяк. Што гэта ты, айцец, гарэлку п'еш? Яна ж вораг чалавека.

Поп. Гарэлку я п'ю, бо ў евангеліі сказана: «Палюбі ворага свайго».



— Быў на кірмашы, куме?

— Быў, абраз купіў.

— А ну, пакажы?

— А бадай жа цябе, куме... Не магу развязаць — рукі памерзлі.

— Дык на, куме, капшук,— закурым.

— Давай барджэй.



Неяк айцец Парфірый выйшаў на вуліцу. А тут якраз засопшыся бяжыць селянін.

— Адкуль ты бяжыш? — спыніў яго поп.

— Адтуль, дзе грошы даюць... Бягу, каб назад не адабралі.

— А дзе іх даюць?

— А вунь каля крамы... Адзін праезджы пан за кожны фокус дае залатую пяцёрку.

— Які ж ты фокус паказаў?

— Ды я, ойча, злавіў вераб'я, схаваў яго за пазуху і кажу таму пану: «Каб ты, паночку, жыў, жыў, жыў...» А затым дастаў з-за пазухі вераб'я і выпусціў са словамі: «Жыў, жыў і па-а-ля-цеў, як гэтая птушка!»

Сказаў гэта селянін і пабег. А поп стаіць і разважае: «Калі гэты дурны мужык змог абдурыць пана, дык я ж разумнейшы...»

Але як поп ні стараўся, не мог прыдумаць нічога цікавага. А на грошы святы айцец быў ласы, як кот на каўбасы. «Трэба ж хоць пяцёрку выманіць у пана,— падумаў поп.— Зраблю так, як мужык».

Злавіў ён хуценька вераб'я, пераапрануўся ў рыззё, каб людзі не пазналі, вераб'я таго — за пазуху і пашыбаваў да пана. Падбягае і крычыць:

— Каб ты, паночку, жыў, жыў, жыў, жыў, жыў...

Поп, спяшаючыся, сарочку ззаду ў штаны не ўвабраў — верабей і выпырхнуў па дарозе. Пашукаў ён за пазухаю і кажа:

— Жыў, жыў і,— маючы на ўвазе вераб'я,— не ведаю, дзе дзеўся...

— Ах ты, галган! — закрычаў праезджы пан і сцебануў бацюшку пугаю.



— Мужыку і ў пекле горш, чым пану...
— Чаму?
— Бо пан спакойна сядзіць у катле і кіпіць, а мужык мусіць дровы сячы і пад кацёл класці.



Царкоўны стараста абходзіў усе двары і загадваў:
— Ідзіце папу жаць! Папу — жаць!
— Каго папужаць? — перапытаў вясковы бабыль Ігнат.
— Матушка загадала: папу жаць.
— Добра, я зараз! — сказаў Ігнат і, вывернуўшы кажух на левы бок, бягом да пападзі: — Давай сюды папа! У пекла панясу!
Пападдзя ўмлела ад страху:
— А што ж са мной будзе, пане чорт?
— І цябе ў той жа мех забяру!
— А вой-вой!..
— Не хочаш, грэшніца? То бяры хутчэй серп і ляці ў поле: сажнеш да вечара ўсё папова жыта, то, можа, і збавішся ад пекла...
Пападдзя, як падмеценая, пашамацела з сярпом у поле.



Калісь жыў вельмі лоўкі злодзей. Адзін раз дачуўся ён, што ў аднаго чалавека ёсць шмат грошай, і рашыў іх украсці. Днём ён залез на гарышча і каля бэлькі ў столі пракруціў дзірку, каб было відаць, дзе гаспадар гэтыя грошы хавае.

От гаспадар з гаспадыняй павячэралі і да сваіх грошай: глядзяць, ці не ўзяў хто. Пасля стары стаў маліцца:

— Госпадзі, ачысці душу маю!

— Ачышчу! — кажа зверху злодзей.

— Госпадзі, ачысці душу жонкі маёй!

— Ачышчу! — абяцае злодзей.

— Госпадзі, ачысці душу сына майго!

— Ачышчу! — кажа злодзей.

— Госпадзі, ачысці душу майго суседа!

— Не ўпраўлюсь...

А калі яны назаўтра ўсталі, у хаце было пуста — ачысціў іх гэты злодзей да ніткі.



Прыйшоў цыган да селяніна і просіць:

— Дай, бацька, сала.

— Ідзі касіць, дык атрымаеш сала і да сала.

— Добра.

Пайшоў цыган на сенажаць. Пабыў там да вечара, а за касу нават і не ўзяўся, толькі ўсяго і працы было, што ўсё сала спытляваў.

Вярнуўся цыган вечарам да гаспадара і зноў просіць:

— Дай, бацька, яшчэ сала, каб трава не ўстала.

Гаспадар адмовіў.

— Ну, не даеш сала,— каб жа табе трава ўстала,— сказаў, адыходзячы, цыган.

На другі дзень пайшоў гаспадар на сенажаць, а там уся трава стаіць някошаная.

Уздыхнуў селянін ды кажа:

— Пашкадаваў учора сала — вось і трава ўстала.



Да следчага прывялі двух злодзеяў.

— Дзе ты жывеш? — пытае ў аднаго з іх следчы.

— Пад мостам,— адказвае той.

— А ты? — спытаў ён другога.

— А я ў яго на кватэры.



— У цябе, суседзе, свярдзёл ёсць?

— Няма, а нашто табе?

— Ды ўчора ў свірне нехта дзірку пракруціў і пудоў дзесятак жыта выцадзіў.



Чалавек упершыню трапіў у горад.

— Ці далёка да гасцініцы? — запытаў ён у сустрэчнага.

— У тры разы бліжэй, чым да лазні.

— А колькі да лазні?

— Як і да пошты.

Сядзяць рыбакі і вядуць гутарку, як калі каму здаралася самоў лавіць. Вось адзін і кажа:

— Памятаю, раз пад вясну злавіў я сома ў Бярозе, то блізка пяці пудоў быў.

А другі пад тое:

— Што гэта значыць? У нас на Дзвіне злавілі раз сома, дык з аднаго языка тры пуды туку натапілі.

— А што,— перапыніў другі,— каб ён тым языком ды брахнуў. Вось бы, мусіць, гладка выйшла.





Два паляўнічыя былі ў гасцях. Адзін і кажа другому:

— Калі буду расказваць якую-небудзь паляўнічую гісторыю ды буду дужа маніць, дык ты мяне тады тузай у бок.

Падвыпілі паляўнічыя. Вось і пачаў першы:

— Учора я забіў ліса... А хвост быў які? Мо з метр...

Другі яго тузь у бок.

Першы. Ну і хвост быў... Добрых паўметра...

Другі яго тузь у бок.

Першы. Ну мо і не паўметра, а сантыметраў трыццаць...

Другі яго тузь у бок.

Першы *(абурана)*. Ты што ўсё таўчэш? Мо хочаш сказаць, што ліс без хваста быў?



Касілі два касцы: бацька і сын.

— Ой, як мала мы выкасілі,— кажа бацька.

— Э-э-э, каму ж тут было касіць,— кажа сын.— Ты стары, я малады.

Селі яны есці і добра-такі ўмалацілі.

— Ого,— здзівіўся бацька,— як многа мы з'елі.

— А як жа,— заўважае сын,— хіба не было каму: ты — мужчына, я — мужчына.



Ноччу прачнулася Аміля і кажа свайму мужу:

— Каруська, не магу заснуць.

— Як гэта не можаш?

— Каруська, а купіш мне новае паліто?

— Куплю.

— І новы капялюш да паліта?

— Куплю.

— Які ты мілы, добры, мой Каруська,— цешыцца пані Аміля.

— Не цешся яшчэ.

— А чаму?

— Бо я гутару з табою праз сон.



Аднойчы нейкі чалавек трапіў у незнаёмы горад. Спатрэбілася яму зайсці ў аптэку, але ў які бок падацца, не ведае. Раптам бачыць — насустрач ідзе мясцовы жыхар. Узрадаваўся чалавек і да яго:

— Будзьце ласкавы, як трапіць да аптэкі?

— Да аптэкі? — перапытаў той.— Дык гэта ж рукой падаць. Якраз насупраць маёй хаты.

— А хата ваша дзе?

— Дык вы і гэтага не ведаеце? Якраз жа насупраць аптэкі.



— Татачка! Паўла просіць мае рукі. Што яму сказаць?

— Скажы яму, што ў тваю руку я нічога не ўлажу.



— Было гэта, браце, пры панах. Злавіў я ў панскім возеры шчупака — вялікага, вялікага! Нясу яго дахаты. Галава на плячы, а хвост па зямлі валачэцца.

Гляджу — ідзе насустрач пан. Што ж мне рабіць?

Аднак мужык я нішто, здагадаўся адразу, што рабіць: шапку з сябе, шчупака ў шапку, а шапку на галаву... І прайшоў сабе хоць бы што: нічога пан не заўважыў.



— Скажы, дзядзька, з чаго вецер робіцца?

— Вось дурань! Зірні ўгару, што там ёсць?

— Неба.

— А ўнізе?

— Зямля.

— А пасярэдзіне?

— Ды нічога.

— Дык вось пасярэдзіне не нічога, а скразняк. А як скразіць, дык і вецер.



— Біліся, дык я яго мяшком бух! бух! А ён мяне абушком цюк! Дык ён спалохаўся ды бягом, а мяне, як пана, на насілках панеслі.



Паляўнічы сустрэўся з рыбаком і пачаў яму расхвальваць сваю стрэльбу.

— За кіламетр у зайца пацэльвае,— кажа ён,— а дзіка аднойчы за паўтара кіламетра ўлажыў.

Рыбак у сваю чаргу пачаў выхваляцца:

— А я ўчора вось гэтай вудай злавіў карася ў метр даўжынёю.

— Ды што ты? Гэта не можа быць,— усумніўся паляўнічы.

— Бач які ты. Я табе на цэлы кіламетр паверыў, а ты мне і на метр не хочаш верыць.



Прыбеглі людзі на пажар і бачаць: стаіць рукі ў бокі стары Антось каля гумна са збожжам і... хоць бы што. А гумно гарыць — ужо і страха абурылася.

Крычаць мужыкі:

— Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе.

— Ага. Але ж тут і мышэй ляснула...



— Ведаеш, Янка, я ўчора падстрэліў зайца на дзесяць кілаграмаў...
— А я забіў зайца ў нядзелю на цэлы пуд...
Першы паляўнічы пачухаў патыліцу:
— Шкада, што я першы пачаў размову.



— Ты, Мар'я, у печы паліла?
— А як жа, паліла.
— Чаму ж яна халодная?
— Астыла за тры дні.



— Як табе, Піліпе, не сорам? Усе людзі ў полі, а ты дома ляжыш?
— А дзе ж я ў тым полі паляжу, калі зямля сырая. Яшчэ прастуджуся.



— От у нас капуста расла! — кажа адзін.— Качаны пудоў на тры.
— А вось у нас гаршкі лепяць, як бочкі,— гаворыць другі.
— А нашто такія вялікія гаршкі? — здзіўляецца першы.
— Капусту тую варыць, якая ў вас расце.



Першы жабрак. Пагана быць глуханямым: усё чуеш, а нічога не можаш сказаць.

Другі жабрак. Яшчэ горай быць сляпым: на ўсё азірайся, заплюшчыўшы вочы.



— На апошнім паляванні я адным стрэлам параніў 5 курапатак і аднаго зайца,— расказвае вядомы манюка Хведар.

— Страляць гэтак трапна я не магу,— адказвае яму ляснічы,— а зманіць таксама ўмею.



Адзін сын служыў у салдатах. Пачалася вайна. Сын да бацькі піша з вайны і просіць прыслаць грошай, бо яму адарвала нагу і ён ляжыць хворы.

Бацька адпісвае:

«Дарагі сынок! Гэта ўжо чацвёртая нага, што табе адарвала на вайне. Шкада цябе, але грошай у мяне



няма. Пастарайся вылезці на апошніх нагах, што ў цябе засталіся».



— У якім вуху звініць?
— У левым.
— Не, не ўгадаў. У пра-а-авым.
— Значыцца, ты і сам ведаеш. Дык навошта пытаўся?



— Чаму гэта ты, хлапец, нідзе не працуеш?
— Дык я ж яшчэ малы!
— А чаму на табе такія кароткія порткі?
— Дык гэта ж бацькавы.



— Еш, Якаў.
— Дзякуй, дзякуй.
— Дык чаму ж не ясі?
— А чаму лыжкі не дасі?



Суддзя. Ці ведаеш, што гусі дрэнна красці?

Злодзей. Але, ведаю, пане суддзя! Яны вельмі крычаць.



— Скажыце, як вас завуць?

— А як хто хоча: жонка — распуснікам, бацька — гультаём, суддзя — злодзеем, толькі адзін адвакат хваліць.



Двое гультаёў спалі ў капе сена. Праходзіў міма чалавек і забраў іхнія вілы.

Адзін гультай і кажа другому:

— Дагані і адбяры.

Другі адказвае:

— Пачакай, калі ён прыйдзе забіраць сена, мы яго схопім разам.



— Гэта ты ўкраў сасну ў лесе?

— Зусім не я, я шчыра прызнаюся вам, як было: ехаў я праз лес, і тут мая вось зачапілася за дрэва, а тое дрэва дый зламалася і — бразь на воз. Што было рабіць? Дрэва цяжкое — я адзін не скіну, ну і зацягнуў дахаты.



Ля вогнішча, як звычайна, паляўнічыя гаварылі пра сваіх сабак.

Адзін паляўнічы захацеў пахваліцца і сказаў:

— Бываюць такія разумныя сабакі, што нават за самога гаспадара разумнейшыя.

— Ну, гэта ты перагнуў, браце, такіх сабак не бывае,— запярэчыў другі.

— Як не бывае?! У мяне самога такі сабака.



— Э, у мяне парсюк! Цераз парог не пералезе, а ёсць пад парогам дзірачка, дык ён туды — шусь!



Адзін хлопчык спытаў у старога рыбалова:

— Скажы, дзядзечка, як вяжуць сеткі?

— Проста. Бяруць дзіркі і звязваюць іх шнуркамі.



— Ай, і бяда ж!

— Якая?

— Ды вунь у таго пана, што ў зялёным капелюшы, жулік нядаўна залаты гадзіннік выцягнуў.

— Ну, а табе што да гэтага, чаго ты бядуеш?

— Як чаго?! Гэты гадзіннік ды ўжо быў мой.

— Якім парадкам?

— Я першы збіраўся яго ўкрасці.



— Дай, бабка, малака.

— Карова не доіцца.

— Тады налівай смятаны.



Адзін паляўнічы хваліўся сябру, што яго сабака найразумнейшы за ўсіх сабак. Сябар усумніўся.

Але аднойчы, у час палявання, у іх з-пад ног выскачыла пара шаракоў. Сабака глянуў на іх і не зрушыў з месца.

— Ага, бачыш? — зарагатаў шчасліва ўзрушаны гаспадар сабакі.— Разумны, шэльма! Ведае, што за двума зайцамі пагонішся, дык ні аднаго не зловіш.



— Ну, як прайшло паляванне?

— Ат, зжаліўся божа. Утрох аднаго зайца падстрэлілі...

— А як жа вы яго падзялілі?

— Ды мы яго і не знайшлі...



Злодзей, крадучы сала, вельмі моцна грукнуў у сенцах. Пачуўшы гэта, гаспадар адчыніў дзверы.

— Ці не купіце ў мяне сала? — не разгубіўшыся, спытаў злодзей у гаспадара.

— Ды не, у нас свайго даволі,— адказаў той.

— Тады прабачце, паддайце мне мех на плечы.



— Цімох, твайго бацьку злавілі!

— Дзе?

— У каморы.

— Вось дзіва! У каморы кожнага зловіш. Вы яго ў лес пусціце, а тады злавіце.



— Чаму ты, Змітрок, не косіш?
— Не магу.
— Што, захварэў?
— Ды не! Жонка ў гасцях, дык касу няма каму адкляпаць.



— Ты што ўкраў?
— Вяроўку з рагамі.
— З якімі рагамі?
— З кароўімі.
— А карова дзе?
— Цягнулася і яна, падла, за гэтымі рагамі.



Бацька паказвае сыну пяцірублёвы залатнік і папяровую пяцёрку і пытаецца:
— Каторую хочаш?
Сын паглядзеў, пачухаўся дый кажа:
— Хачу гэты залатнік, укручаны ў гэтую пяцёрку.



Адзін пячнік клаў печ. Паложыць цагліну, пастукае па ёй кулаком і кажа:
— Вось як і была тут.
Паложыць другую, пастукае кулаком і зноў:

3 Зак. 1767

— Як і была тут...

Назаўтра прыходзіць — печ развалілася. Пячнік пачухаў патыліцу і прамармытаў:

— Гм... Як і не была тут.



— Вас вінавацяць, што вы хацелі ўкрасці грошы са скарбонкі для бедных.

— Па сваёй някемлівасці, пан суддзя. Іду гэта я і раптам бачу — вісіць скарбонка, на ёй напісана «Для бедных»... Ну я, як чалавек бедны, узрадаваўся і хацеў узяць сваю частку.



У адной жанчыны запыталі, ці ўмее яна трымаць сакрэты.

— Вядома,—адказала тая.—Але бяда ў тым, што ўсе, каму я іх расказваю, не ўмеюць іх трымаць.



Паслаў бацька свайго сына, які зусім не цікавіўся гаспадаркаю, калёсы падмазаць... Чакаў, чакаў, а сын усё не вяртаецца. Пайшоў бацька сам.

— Калі ты ўжо скончыш? — пытае.

— А ўжо хутка — адну толькі аглоблю падмазаць засталося.



— Ты ўкраў гадзіннік?

— Не, не ўкраў.

— А як жа гэта?

— Іду сабе і чую, што і гадзіннік ідзе, я тады кажу: пойдзем разам... Ну і пайшлі.



Мікола Хвастун вельмі любіў выхваляцца перад суседзямі. Аднаго разу ён і кажа да суседа:

— Вось, братка, я цябе патрапіў бы сто разоў на дзень прадаць.

— Нічога дзіўнага,— адказвае сусед,— відаць, я нешта варт, калі б мяне так нарасхват куплялі. Але вось цябе, дык, пэўна ж, ніводнага разу не патрапіў бы прадаць, хоць нават сто разоў хадзіў бы на кірмаш.



— Паіў ты каня?
— Паіў.
— А што ж у яго пыса сухая?
— Бо вады не дастаў.



— Эх і карак! Ну і карак! Вось гэта дык карак,— мармытаў сабе цырульнік, падстрыгаючы кліента.

— А гэта таму, што я заўжды добра і смачна ем,— самазадаволена ўсміхаючыся, сказаў кліент.

— Ды еш ты, братка, хоць мякіну,— адказаў цырульнік,— але ж хоць зрэдку мый шыю.



— Вас абвінавачваюць, што вы ўкралі чатыры пуды жалеза. Што вы скажаце ў сваё апраўданне?

— Што мне было вельмі цяжка несці, пане суддзя.



— Ціт, ідзі малаціць.
— Жывот баліць.
— Хадзі кашу есці.
— А дзе мая вялікая лыжка?



— Я вас, Сяргей Пятровіч, сёння бачыла ў сне: вы прайшлі каля мяне і не прывіталіся.

— Выбачайце, Мар'я Іванаўна, я, мабыць, вас не заўважыў.



Бюракрат, да якога ўжо каторы раз прыйшла на прыём старэнькая бабуля, паспачуваў:

— Няўжо ў вас дома няма каму займацца гэтаю справай? Гэта ж падумаць толькі! Такую старую прымушаюць столькі хадзіць.



— Сёння яшчэ нічога не еў. Узяў кавалак хлеба, хацеў у ваду памачыць, але ў вядро не ўлез, так сухама і з'еў.



Начальнік-перастрахоўшчык сядзіць з малым сынам у тэатры і слухае хор.

— Тата,— пытаецца сын,— а чаму яны спяваюць усе разам?

— Які ты нездагадлівы... Баяцца асабістай адказнасці.



— Васіль цэляе са стрэльбы ў муху з адлегласці дваццаці метраў.

— Ну, гэтага не можа быць!

— Далібог! Толькі ён муху малюе на ўсю сцяну.





— Якога вы мне селядца даеце, ён зусім нясвежы!

— Нясвежы?! Гляньце: ён хвастом кратае.



— Паважаны Пётр Пятровіч, вам, як нашаму дарагому, любімаму дырэктару...

— Ведаеце, я ўжо не дырэктар, знялі...

— Дык чаго ж вы пра гэта раней не сказалі?



Аднойчы сустрэліся Талент і Імя. Паважна пыхкаючы, Імя кажа:

— Прэч з дарогі, хіба ты не бачыш, хто я?

— Ну хто ж ты? — спакойна пытаецца Талент.

— Я — Імя! — з гонарам адказвае яно.— Усе мяне ведаюць. Усе мне даюць дарогу. А вось хто ты — я штосьці цябе не ведаю.

— Я,— усміхнуўся Талент,— якраз тое, чаго табе не хапае.





Два будаўнікі пачалі будаваць лазню. Справа дайшла да памоста.

Адзін кажа: «Давай пагаблюем дошкі».

А другі адказвае: «Калі пагаблюем ды яшчэ вады нальюць, тады стане слізка і хто-небудзь паваліцца». «Давай пакладзём не габляваўшы»,— кажа другі. Першы адказвае: «Яшчэ хто-небудзь нагу заскабіць».

І зрабілі так: дошкі пагаблявалі, але паклалі габляваным уніз.



Начальнік расказвае нейкі анекдот. Усе падначаленыя аж заходзяцца ад смеху, толькі адзін маўчыць.

Пытаюцца, чаму ён не смяецца. Той адказвае:

— А навошта? Я ўсё роўна заўтра звальняюся.



— Ох, Парасачка мая!..

— Чаго ж ты!

— Нічога! Кахаю цябе так, што і сам не ведаю...

— Ну і што?

— Прысягаю, зорачка мая, што кахаю цябе, ой як кахаю...

— Праўду кажаш?

— Праўду, сонейка маё, праўду, у нядзелю сватоў прышлю.

— Бацькі мяне не аддадуць.

— Чаму?

— Казалі, што перш старэйшую сястру аддадуць.

— Няўжо?

— Дапраўды ж казалі!

— А пасагу шмат дадуць?

— Ой, шмат! Зямлю, карову, авечку і сто...

— А ты не ведаеш, ці пайшла б сястра за мяне?..



Жылі тры браты.

Аднойчы іх напаткала вялікае гора: памерлі бацька і маці і пакінулі ім адну-адзіную хатку, дый тую старэнькую.

Гаруюць браты, не ведаюць, што рабіць: хата вось-вось разваліцца.

— Чаго тут бедаваць,— пачаў старэйшы,— стук-грук — і вось табе новая хата.

— Цяп-ляп — і печ што трэба,— падсыпаў сярэдні.

— Здарава! — сказаў малодшы.— Добры дзень, браты, у новай хаце!



Да карчмы падыходзіць госць. Карчмар здалёку вітае яго:

— Добры дзень, Мікалаю! Вас тут пыталася нейкая жанчына.

— А хто ж такая?

— Ці ж я ведаю?

— Заікалася, можа?

— Але!

— Малая, крывыя абцасы?

— Але!

— Такая задрыпаная?

— Але, так.

— І лаялася?

— Ага.

— Гэта, пэўна, мая жонка.



Мужык да жонкі:

— Ведаеш, Тэкля, вельмі нешта добрае я сённяшняй ноччу прысніў.

— Я такі дагадалася: праз сон ты крыкнуў: «Давай, Моўша, яшчэ кварту!»



— Як справы, Хвядос? Казалі, што ўчора ты зноў з жонкаю пасварыўся.

— Няпраўда, хлусяць... Мы з ёй ужо другі тыдзень не размаўляем.



Дзед даў маленькай Юлі яблык.

Юліна маці. Дачушка, а што ж трэба сказаць за гэта?

Юля. Дзядуля, дай яшчэ і маме.





Бацька. Думаю, што, беручы маю дачку, вы ведаеце, што бераце?

Зяць. Добра не ведаю, але казалі, што пяць тысяч рублёў.






Бацька кажа да свайго сына, якога асудзілі за кражу ў турму:

— Шануйся там, сынок, каб цябе назад не выгналі.



Убачыўшы Аўдоццю, якая дажынала пшаніцу, Марфа кінула ёй:

— Добры дзень, кумка! Памагай бог!

— Можа б ты, кумка, мне і сапраўды памагла,— адказала Аўдоцця.

— Я і рада б, кумачка, але ў тваёй пшаніцы шмат асцюкоў, баюся пакалоць рукі!

Прыйшла зіма. І акурат у Марфы выйшла мука. А без мукі ні блінчыка спячы, ні заціркі згатаваць. Прыхапіла яна мяшэчак і — да Аўдоцці:

— Каб табе не зманіць,— яшчэ на парозе схітравала яна.— Ішла ў краму купіць мукі, ды яе ўсю разабралі. Можа ты пазычыш?

— А ёсць у што?

— Але, кумачка, я і торбачку прыхапіла.

Аўдоцця ўзяла торбу і выйшла ў сені. Не мінула і хвіліны, як выбягае яна адтуль:

— Каб ты ведала, кумачка! Як толькі я за муку, асцюкі — за руку, толькі я — за муку, асцюкі — за руку!.. Так і не змагла насыпаць.



Пякла маці аладкі, а дачушка Тося круцілася каля яе ды і кажа:

— Чаму ты, мамка, са мною не гаворыш?

— А што я буду табе гаварыць?

— Ну хоць што... Вось сказала б: «На табе, Тося, аладачку...»



Да дзядзькі, які плача над магілай:
— Па кім вы, дзядзька, галосіце?
— Тут ляжыць... першы муж... маёй жонкі...
Ах, навошта ж ён памёр!



— Ці добра там табе сядзець?
— Вельмі добра.
— А не холадна?
— Не.
— А з акна не цягне?
— Ані.
— Дык пусці мяне туды, а сама сядай на маё месца.



Чалавек з жонкаю прыехаў у Вільню. На вуліцы падыходзіць да рамізніка і кажа:
— За колькі завезяце на Антаколь?
— За залатоўку.
— Але нас дваіх — жонка таксама едзе.
— Усё роўна залатоўка.
— Бачыш, Агата,— кажа чалавек жонцы,— я заўсёды табе гаварыў, што ты нічога не вартая.



— Ну і скупы ж мой муж!
— А што?
— Дык як жа ж... Учора, калі ён вярнуўся ўночы, знайшла я ў яго кішэні сабе падарунак: жаночую панчоху, але толькі адну, і то паношаную.



— Ганна! Колькі разоў казаў табе: не мачы свае пальцы ў страве — брыдка есці.
— Я толькі павука выцягнула.



Малады муж і жонка ў першыя дні свайго шлюбу шпацыруюць па дарозе за горадам. На дарозе ляжыць вялізны камень.
— Асцярожна, маё золатца, не спаткніся! — кажа ён ёй.
Праз год пасля шлюбу на гэтай дарозе.
— Ці ты не бачыш, куды ідзеш, глядзі пад ногі...
Праз пяць гадоў:
— Куды прэшся, сляпая варона! Бачыш, камень ляжыць...



— Даражэнькі сынок! Калі хочаш быць шчаслівым, дык сцеражыся карчмы, картаў і распусты.

— Добра, татачка! Але ж мяне ў школе вучылі, што трэба заўсёды з бацькоў прыклад браць.

— Ты ж мне пры сведках абяцала, што будзеш слухацца мяне,— кажа муж жонцы.

— Таму і абяцала, што пры сведках не выпала пасварыцца,— адказвае жонка.



— «Слова — гэта вецер»,— кажа старая прымаўка.

— Гм... Калі б гэта было праўдай, то мая баба сваёй гаворкай вярцела б усе ветракі на свеце.



Нявестка пайшла ў краму па соль. Свякруха ж выпусціла з хлява свіней, каб накарміць, але забылася на іх, калі тапталася каля печы. Свінні тым часам залезлі ў гародчык і перарылі ўсю бульбу.

Убачыў гэта свёкар і накінуўся на старую:

— Столькі бульбы загінула, ты ва ўсім вінавата...

— Я вінавата?! — перапытала яна.— Гэта нявестка вінавата.

— Нявесткі ж дома няма.

— Дык вунь яе андарак вісіць.



Жонка. Бачыш, якая ты свіння: сабе ўзяў вялікую рыбіну, а мне меншую пакінуў.

Муж. А ты як зрабіла б?

Жонка. Я?! Пэўна, што ўзяла б меншую...

Муж. Ну, то чаго ж ты хочаш, я ж табе і пакінуў меншую.



— Праўда, што вы пабілі сваю жонку ў нядзелю?

— Але што рабіць, калі ў будны дзень я зусім не маю часу.



Ё н. Мая птушачка, як паверыш у маё шчырае каханне, на руках буду цябе насіць.

Я н а. О не-э-э! Другі раз ужо не дамся на гэты кручок, бо аднаму паверыла, дык пасля сама мусіла на руках насіць.



Адна жонка за ўсё сваё жыццё вельмі далася ў знакі мужу. Калі ён ужо ляжаў на смяротным ложку, падышла яна да яго дый кажа:

— Адыходзіш ужо на той свет, а мяне пакідаеш у горы, але вер мне — я хутка пайду за табою!..

А муж ёй на гэта:

— Прашу цябе, дарагая, не вельмі спяшайся.



Перад святам гарадавы заўважыў нейкага дзіўнага чалавека, які ад раніцы да вечара стаяў перад магазінам моднага адзення.

— Хто вы такі? — падазрона спытаў гарадавы.

— Я спакойны чалавек.

— Дык чаго стаіце цэлы дзень каля магазіна?

— Чакаю жонкі. Зайшла на мінутку па капялюш...



Муж. Што ты за гаспадыня — у адной сарочцы аддзёрты правы рукаў, а ў другой няма левага.

Жонка. Вялікая важнасць! Надзень абедзве, то і будуць абодва рукавы.



Стары хваліўся перад сваёй старою, што ведае нямецкую мову. Неяк ён прыйшоў з работы і сказаў:

— Копел мопел.

— Што ты кажаш? — не зразумела старая.

— А тое, цёмная баба, што па-нямецку гэта азначае — здымі з мяне валёнкі і пастаў сушыцца ў печ.

Раніцай стары прачнуўся, а жонка і кажа яму:

— Мопел копел.

— Гэта яшчэ што! — здзівіўся стары.

— А тое, што твае валёнкі згарэлі.



«Усю ноч не сплю, усё пра цябе думаю, Парасачка! А цяпер, калі ночы сталі даўжэйшыя, нават два разы пра цябе думаю».



Жонка згатавала мужу смачную вячэру. З апетытам пад'еўшы, муж вырашыў зрабіць ёй штосьці прыемнае.

— Любая,— сказаў муж,— заўтра я сам згатую табе такі ж смачны сняданак.

— Які? — здзівілася жонка.

— Падагрэю суп, што застаўся ад вячэры.



Прыйшлі сваты да адной дзяўчыны. Сватаюць яе за суседа. А яна наадрэз:

— Не пайду за яго!

Што ні гаварылі, а яна сваё — не пайду, ды і ўсё.

— А чаму ж ты не пойдзеш? Якая прычына?

— Ды бачыце, мне варажбітка сказала, што мой першы муж будзе п'яніцаю, другі — гультаём. Дык я хачу адразу за трэцяга выйсці.



Ферка. Ну і выбралі ж вы сабе жонку: і старая, і глухая, і непрыгожая. Навошта такую?

Мікола. А для таго, каб не было шкада, як памрэ.



— Ці бачыш? У тваю хату праз акно злодзей лезе!

— Ціха, ціха, няхай лезе! Жонка падумае, што гэта я, і дасць яму дыхту.



— Бярэш?
— Але.
— Сабе?
— Няўжо ж каму.
— За жонку?
— Пэўна ж не за дзеўку.
— Не маніш?
— Не-э-э...
— Аж да смерці?
— Вось прычапіліся!





— Ціха, не крычы, бо яшчэ цешча...
— Твая ж цешча даўно памёрла!
— А ў памяці стаіць, як жывая...



— Даражэнькі зяць! Што б ты рабіў, калі б убачыў, што на мяне накінуўся воўк і пачаў бы есці?

— Ну і што б рабіў?! Сказаў бы яму... прыемнага апетыту.



Ішоў цыган па дарозе. Спатыкнуўся ён, пляснуўся на зямлю і ўбачыў цвік.

— Каб не ўпаў, дык і цвіка не знайшоў бы.

Паклаў цыган цвік у кішэню і накіраваўся ў вёску. Зайшоў да аднаго селяніна і папрасіў есці. Той накарміў яго.

— Грошай у мяне няма,— кажа цыган селяніну,— вазьмі за абед хоць цвік.

— Нашто мне твой цвік,— пацісну ў плячыма селянін.

— Вазьмі, браток, мо спатрэбіцца,— не адступаў цыган.

— Не трэба мне твой цвік...

— Тады я заб'ю яго ў сцяну, няхай тырчыць,— не адступае цыган,— а мо калі спатрэбіцца ўсё ж...

— Ну як хочаш,— сказаў селянін, каб адчапіцца ад таго.

Забіў цыган цвік у сцяну і пайшоў.

Аднойчы цыган захацеў есці, а ў самога ды нічога не было. Успомніў ён пра цвік і пайшоў да селяніна:

— Зайшоў, браток, да цябе, каб глянуць на цвік,— і дадаў:— Усё ж такі лепей жыць, калі ў цябе ёсць свой цвік... Дазволь я пасяджу каля яго.

Дазволіў селянін. Пасядзеў цыган каля цвіка ды за адно і паабедаў з селянінам.

Праз нейкі час цыган прывёў каня, прывязаў лейцы за цвік і кажа:

— Бачыш, як добра, калі маеш хоць цвік. Ёсць за што і каня прывязаць.

А яшчэ праз нейкі час цыган прывёў сваіх дзяцей і гаворыць селяніну:

— Усё ж такі чалавеку лягчэй пражыць, калі ў яго ёсць хоць цвік... Няхай, браток, дзеці пасядзяць каля цвіка...

Ды так і перабраўся цыган на зіму да селяніна.



— Тата, тата!..

— Сынок, мы дамовіліся: калі ем — глух і нем.

Пасля абеду бацька пытае:

— Дык што ж ты хацеў сказаць, сынок?

— Позна ўжо. У капусце была муха, і ты яе з'еў.



Нявестка ўбачыла праз акно, што ў хату свёкар ідзе. Яна і кажа сабе:

— Зноў яго чорт прынёс...

Свёкар зайшоў у хату, а маленькі Гаўрылка і пытаецца:

— Раскажы, дзедзя, як ты да нас дабіраўся?

— Ды вось ішоў памаленьку, ішоў...

Гаўрылка ў непаразуменні:

— А мама ж казала, што цябе чорт прынёс.



— Як ваша хвароба?
— А, бадай яе ліха! Вельмі ўпартая.
— А як ваша жонка?
— Такая самая, пане доктар.



— Хто з вас бачыў смелага чалавека? — пытаецца настаўнік.
— Мой бацька самы смелы.
— Адкуль ты ведаеш, што ён самы смелы?
— Ён нават маме сказаў, што ні кропелькі яе не баіцца.



Першы. Чаму ты другі тыдзень не размаўляеш з жонкаю?
Другі. Пасварыліся.
Першы. Гэта ж дрэнна.
Другі. Наадварот, добра — цэлы тыдзень жывём мірна...



— Максім, чаму ты не жэнішся? — пытае Васіль.
— Маю на гэта дзве прычыны: першая — жыццё мне яшчэ міла, а другая — не хачу з суседзямі сварыцца.



Малы просіць у маці арэхаў.

— Развяжы торбачку ды і вазьмі сам жменьку.

— Не хачу сам. Скажы, каб мне тата даў,— плача малы.

— Чаму? — пытаецца маці.

— А ў таты жменя большая.



Збіраліся мужык з жонкай на кірмаш. Жонка запазнілася выпаліць печ і згатаваць ежу. Але вось капуста зварылася. Жонка налівае міску капусты мужыку, а сама садзіцца есці сала, што варылася ў капусце, ды кажа:

— Гэта я, Янук, каб скарэй, а то пакуль ты пад'ясі капусты ды за сала возьмешся, то і на кірмаш позна будзе.

Паеўшы капусты, Янук пайшоў запрагаць каня, а Еўка ззаду за Януком з хаты і ўселася ў санях. Янук падвёў каня да аглобляў, перакінуў повад каню на шыю, узлез на каня і кажа:

— Гэта я, Еўка, каб скарэй, каб не спазніцца на кірмаш.

І памчаўся верхам за вароты.



Абдзяліла мачыха двух пасынкаў — кожнага цэлым яблыкам, а свайму сыну нічога не дала дый кажа да пасынкаў:

— А вы ж і майму сыну дайце хоць па палавінцы.



Жонка ўцякла ад мужа. Праз кароткі час яна вярнулася назад і просіць, каб ён гэта ёй дараваў. А муж кажа:

— За тое, што ты ўцякла ад мяне, я магу табе дараваць, але за тое, што назад вярнулася, я табе не дарую!..



Малы хлапчук, якога ў хаце бацька часта дзягай сцёбаў, падыходзіць да прыехаўшага ў вёску доктара і пытае:

— Пане доктар! Ці вы знаеце таго бусла, што сюды дзяцей прыносіць?

— Знаю. А што?

— Мо скажаце яму, каб мяне адгэтуль назад забраў, бо тут абы за што толькі і б'юць!..



— Чаму ты так часта ходзіш у піўную?
— Там музыка, а я люблю музыку.
— Дык хадзіў бы ў оперу.
— Калі ж там няма піва.



Жонка. Каб не мае грошы, не сядзеў бы ты каля мяне, Янка!

Муж. Гм... І ты не сядзела б цяпер пры мне, каб не твае грошы.



— Мама, чаму маладая мае такую белую сукенку?

— Бо сёння ёй вельмі радасны дзень.

— А чаму малады ўбраўся ў чорнае?

— Ах, не задавай такіх дурных пытанняў, смаркач...



Раз у малой дзяўчынкі спыталі, ці доўга Адам з Еваю жылі ў раі?

— Пакуль яблыкі не паспелі,— кажа яна.



— Чаго плачаш, Янук?

— Грошык згубіў.

— Вось табе другі, толькі не плач.

Янук узяў грошык, схаваў і зноў плача.

— Чаго ж ты цяпер плачаш?

— Як жа мне не плакаць? Як бы не згубіў, дык меў бы ўжо два.



Недзе, кажуць, дзед ды баба пасварыліся паміж сабой дый пастанавілі: адно да аднаго не гаварыць. Але нядоўга вытрымалі, бо ў бабы цярпення не хапіла, дык яна і пытаецца:

— Стары, ці ты ўчора чхнуў?

— А што? — панура пытае стары.

— Будзь здароў! — ласкава кажа яна.

— Дзякую.

Гэтак і пагадзіліся.



— Слухай, стары... Сцяпан Крукачонак хоча жаніцца з нашай Марылькай. Як ты думаеш?

— Ды я думаю, што калі хоча, дык няхай жэніцца.

— Але ён хоча, каб ты запісаў яму палавіну зямлі.

— А ведаеш, старая, я думаю, што ён нашай Марыльцы не раўня.



— Трымайся, сынок, за сукенку, а то застанешся!

— Калі ж, мамачка, сукенка вельмі кароткая — не дастану.



Муж і жонка вярталіся дамоў з гаспадарчага магазіна, дзе набылі патрэбныя ім хатнія рэчы. Жонка ішла бадзёра, размахваючы пральнаю дошкай, а муж нёс пад пахаю пілу.

Па дарозе сустрэўся знаёмы.

— Што, пілу купілі? — пытае ён, быццам не верыць сваім вачам.

— Ды што вы — гэта мая карміліца,— адказвае муж, прыціскаючы да сябе пілу,— а піла... вось яна, побач,— паказаў ён на жонку.



Вова гуляў на двары ў футбол і разбіў сабе нос. Прыйшоў дадому. Плача. А бацька і кажа:

— Я так і ведаў, што гэта будзе.

Вова праз слёзы:

— Калі ты ведаў, дык чаму ж мне не сказаў?



М а ц і. Чаму ты, сынок, нічога ў пару не робіш? Помні, што адклад не ідзе на лад.

С ы н. Ах, калі так, мамачка, дык тады дай мне сягоння тыя цукеркі, што ты схавала на заўтра.

4 Зак. 1767



Сустрэліся два хлопцы.
— Чаму ты кульгаеш? — пытаецца адзін.
— Бацька набіў, — кажа другі.
— За што?
— За 5 капеек.
— За якія 5 капеек?
— Што асталіся ад палучкі. Каб прынёс больш, дык, мусіць, зусім забіў бы.



— Што з табою, Мацейка, ты гэтак абвязаны?
— Мая баба кінула гарлачом у мяне...
— Няўжо ты не мог адхіліць галаву, як гарлач ляцеў?
— Чаму не мог? Але тады б ён у акно паляцеў.



— Мама, я пазнаёмілася з маладым інжынерам, які мне сказаў, што я вельмі разумная і развадлівая.

— Дык ты не сустракайся з ім болей.
— Чаму?
— Няхай ён і далей так думае.



Жонка. Ах, Коля, калі ты быў жаніхом, дык абяцаў насіць мяне на руках...

Муж. Ты забываешся, Ганна, што калі ты была нявестаю, дык важыла напалову менш.



— Помніш, ты летась часта прыходзіў у парк з адной дзяўчынай?
— А, гэта з Ірынай...
— А чаму цяпер адзін?
— Дык жа яна стала маёй жонкаю.



У пакой убягае радасны хлапчук:
— Тата, а я сёння ашукаў Сцяпанавага Генку!
— Як гэта табе ўдалося, сынку?
— За адзін новы рубель я яму даў два старых.
— Вось дурненькі,— сказаў бацька.— Ці новы рубель, ці стары — цану ён мае аднолькавую.

Праз некалькі дзён сын зноў прыбягае з вуліцы радасны:

— Ну, сёння, тата, я ашукаў Генку. За адну маю новую шапку ён даў мне дзве старых.



— Я ж прасіла цябе, Ларыса, нікому пакуль што не гаварыць, што я выходжу замуж.

— А я нікому і не гаварыла. Я толькі спытала ў сяброўак, ці запрасіла ты іх ужо на вяселле.



З міліцыі пазванілі маці, што яе сын начуе ў працвярэзніку.

— Зараз жа адпусціце яго дамоў! — закрычала маці.— Што ён там будзе рабіць адзін сярод п'яных.



Муж. Твая рэўнасць, Алеся, беспадстаўная. Я ўчора вярнуўся са сходу позна і быў усхваляваны, таму што дакладчык на сходзе ў мой адрас адпусціў некалькі шпілек...

Жонка. Роўна дзве.

Муж. Адкуль ты ведаеш?

Жонка. Я іх знайшла прыколатымі да твайго світэра.



— Што ж гэта, Цімошка? Паеў усе абаранкі, а пра малую сястрычку і не падумаў?

— Я ўсё, мамачка, думаў, каб яна не прыйшла, пакуль я не з'ем іх.



— Дзеля цябе, мая дарагая, я гатовы на любы подзвіг!

— Тады, калі ласка, вымый посуд.



Гаспадар, гутарачы з суседам, паклікаў свайго сына і даў яму гладыш. Загадваючы, каб той прынёс з пограба халоднага квасу, добра адлупцаваў яго.

— За што ты яго б'еш? — спытаў сусед.

— А за тое, каб не разбіў гладыша.

— Дык ён жа яшчэ не разбіў. Калі разаб'е, тады і адлупцуеш.

— Тады ўжо позна будзе.



К а н ф е р а н с ь е. Зараз фокуснік будзе глытаць салому, іголкі, цвікі...

Х л о п ч ы к. Мама, а чаму ён нікому не скардзіцца, што яго гэткай дрэнною кормяць?



Бацька расказваў:

— Што б вы думалі? Учора выпадкова ў кішэні свайго сына знайшоў пачак «Севера». Дастаў я тыя папяросы і кажу яму: «Калі яшчэ раз знайду ў цябе гэты паганы «Север» — галаву адкручу...» А сёння раніцаю правяраю яго кішэні, а там ужо не «Север», а «Беламор»...

— Ну, дык ты адкруціў яму галаву? — пажартаваў нехта.

— Што ты, братачка,— замахаў рукамі бацька.— Скажы яму пра «Беламор» гэтак жа як пра «Север», дык ён, нягоднік, пачне «Казбек» купляць.



— Цёця, у вас няма дзяцей?

— Няма, дзіцятка.

— А чаму?

— Бо яшчэ не купілі.

— То вы, мусіць, на халадзільнік грошы збіраеце?



Муж есць капусту, моршчыцца і гаворыць жонцы:

— Нешта ты сёння капусту нясмачную зварыла.

Жонка пакрыўдзілася:

— Кінь ты прыдзірацца, я ў гэтую капусту ўсю душу ўлажыла.

— А мяса ты палажыла?

— Ой, і праўдачкі, забылася.



Жонка. Любы, мне так сорамна прызнацца: я не ўмею гатаваць абедаў.

Муж. Не хвалюйся, любая, мне таксама сорамна: я не ўмею грошы зарабляць.



— Спякла я, мамачка, пірог свайму мужыку ды такі румяны, як яблычка, а ён як улупіць мяне пірагом у плечы, усё роўна, як каменем.



— Бабуля, чаму мы не паехалі цягніком?

— Не было білетаў.

— Ну і людзі! Не маглі ўжо іх больш нарабіць.



— Сёння я чытала ў газеце, што чалавек у год павінен з'есці больш трох кілаграмаў солі,— сказала пры абедзе маладая жонка свайму мужу.

— Так, так, любая,— адказаў муж, сёрбаючы перасолены боршч,— але толькі ж не за адзін раз.



— Учора вы сказалі, што я вельмі прыгожая, а сёння чамусьці маўчыце.

— Прабачце, але я ўчора быў без акулярaў.





— Дзед, а дзед, ты маеш зубы? — пытаецца Андрэйка ў свайго дзеда.

— О, унучак, ужо пятнаццаць год, як яны павывальваліся.

— Тады патрымай мае арэхі.



Нявестка гаварыла:

— Чорт іх, мама, усіх ведае. Як свякруха зварыць боршч у вядзёрным чыгуне, дык усё з'ядуць і яшчэ ім мала. А як я звару ў маленькім — больш палавіны застаецца.





— Колькі я табе разоў казала, каб ты не гуляў з Янкам: ён непрыстойны і дрэнна выхаваны хлопчык.

— Тады, мама, няхай Янка гуляе са мною: я ветлівы і добра выхаваны.



— У вашай хаце брудна.

— А мы з мужам хоць і сварымся, а смецця з хаты не выносім.



— Ведаеш, Маруся, мяне муж адзеў з ног да галавы за адну сваю палучку.

— А што ён табе купіў?

— Панчохі і грэбень.



Двое сяброў вядуць размову пра тое, чыя жонка лепшая.

— Мая жонка,— гаворыць першы,— вельмі добрая. Як толькі я прыходжу дамоў, яна здымае з мяне паліто, падае мне хатнія пантоплі і пальчаткі.

— Пальчаткі? — здзівіўся другі.

— Так, гумавыя пальчаткі для мыцця посуду.



Сустрэліся на вуліцы два знаёмыя.

— Скуль бяжыш, дружа? — пытаецца адзін з іх.

— З кіно. Дужа смешную камедыю глядзеў. Абавязкова схадзі, лопнуць ад смеху можна.

— О, гэта добра! Тады я пашлю сёння ж вечарам у кіно сваю цешчу.



— Дурань я быў, калі ажаніўся на табе пяць год назад.

— Думаеш, ты стаў бы разумнейшым, каб мы пажаніліся сёлета?



— Пятрусь, ты зноў ноччу праз сон штосьці гаварыў,— кажа жонка свайму мужу.

— То ўжо мне і ўночы слова нельга сказаць!..— пакрыўдзіўся той.



— Ганулечка, ды я цябе на руках гатоў насіць, гатоў сагрэць цяплом свайго дыхання.

— Ты, гарачанькі, лепей бы прынёс мне бярэма дроў, каб печ напаліць.



На экзамене інспектар сам пажадаў праверыць веды вучняў.

— Хто разбіў сцяну Карфагена? — спытаў у аднаго.— Адкажа Віктар Лазуха.

— Я не ламаў,— разгубіўшыся, адказаў вучань.

— Ён гэтага не зробіць! — заступіўся за Віцю настаўнік.



На экзамене па прыродазнаўству адзін з членаў камісіі папытаўся ў вучня, які расказваў пра слана:

— А колькі, па-твойму, слон можа з'есці сена?

— Два вазы,— няўпэўнена адказаў вучань.

— Як па-вашаму,— ціхком спытаў у настаўніка член камісіі,— ці гэта так?

— Ну, гэта, безумоўна, гіпербала,— адказвае настаўнік.

— Вось і я так думаю,— важна адказаў член камісіі.— Гіпербала, тая з'есць, а слану гэта зашмат.



Н а с т а ў н і к. Чаму салавей, як пяе свае песні, заплюшчвае вочы?

В у ч а н ь. Бо ён іх ведае на памяць.



Настаўнік доўга тлумачыў вучням пра ткацкую справу, пра тое, з чаго шыюць вопратку. А потым запытаўся ў аднаго з вучняў:

— Вось ты, Перагуд, скажы, з чаго пашыты твае штаны?

— З бабулінай спадніцы.



Настаўнік, грэючы бок каля печы, навучаў дзяцей, каб яны ніколі, добра не падумаўшы, не пачыналі гутаркі.

— Лічыце,— кажа,— лепш да сотні спярша, каб мець час добра абдумаць, што хочаце сказаць.

Толькі гэта сказаў настаўнік, як усе вучні разам загулі: «Раз, два, тры, чатыры...» — і так аж да сотні. А пасля як гукнуць:

— Ваша крысо гарыць!



— А што, Янук, спадабалася табе новая вучыцелька?

— Ды яна, мама, нічога сабе: прыгожанькая і не старая. Але, мусіць, яна мала вучылася, бо пра ўсё ў мяне пытаецца.



Настаўнік і вучань у акулярах.

— Пятро, навошта чалавеку вушы?

— Каб бачыць.

— Як жа гэта?

— А як бы я насіў акуляры, каб у мяне не было вушэй.



Настаўніца падышла да аднаго вучня, з дакорам паглядзела на яго і сказала:

— Зноў маці рашыла за цябе задачу?

— А што мне рабіць, калі тата ніколі не мае часу.



Настаўнік *(да вучня 1-га класа)*. Як цябе завуць?

Вучань. Я не ведаю.

Настаўнік. А як маці кліча цябе, напрыклад, есці?

Вучань. Яна ніколі мяне не кліча. Пакуль яна паставіць талерку, дык я ўжо за сталом.



Б а ц ь к а. Калі ты нарэшце выправіш свае двойкі?

С ы н. Не ведаю, тата. Напэўна, не выпраўлю, бо наша настаўніца ніколі не пакідае журнал у класе.



На ўроку хіміі настаўнік звяртаецца да вучня:

— Што будзе з золатам, калі яго пакінуць на адкрытым паветры?

— Яно знікне,— адказаў вучань.

П р а ф е с а р.
А цяпер
адкажыце мне,
як атрымліваецца
вадарод.
С т у д э н т.
Вельмі проста.
Бяром серавадарод,
награваем...
Сера ўлятучваецца,
вадарод застаецца.
П р а ф е с а р.
Ясна.
Стаўлю вам «пяць».
«Тройка» ўлятучваецца
— «двойка» застаецца.





— Няўжо ты, Петрусёк, не можаш скласці ў галаве два і пяць, што лічыш на пальцах?

— Вядома. Галава ў мяне адна, а пальцаў цэлых пяць.



Настаўнік. Усе целы ад цяпла расшыраюцца, а ад холаду сціскаюцца. Ці не прывядзеш, Сцёпка, прыклад?

Сцёпка. Зімой дні карацейшыя, бо холадна, а летам даўжэйшыя, бо горача.



Сын. Тата, сёння я адзін ва ўсёй школе мог адказаць настаўніку.

Бацька. А што ён пытаў, сынок?

Сын. Хто разбіў акно.



Прафесар пытае ў студэнта:

— Чаму вы так хвалюецеся? Хіба вы баіцеся маіх пытанняў?

— Ды не, таварыш прафесар, я баюся сваіх адказаў.



Экзаменатар. Ваша прозвішча?

Абітурыент. Адну хвіліначку, я падумаю.



— Тата! Ты можаш радавацца.

— Гэта чаму ж?

— Падручнікі не трэба мне купляць: я на другі год застаўся.



Студэнт пытае ў студэнта:

— Што ты робіш, калі канчаецца стыпендыя?

— Хаджу ў госці.



— Вось каб мне такія доўгія вушы, як у зайца, тады б я вельмі лоўка падхопліваў бы ўсе падказкі,— заўважыў Коля.

— Не, не згодзен,— запярэчыў Вася.— Доўгія вушы доўга трэба мыць.



Настаўнік звяртаецца да вучня:

— Раскажы пра Аляксандра Македонскага.

— Не ведаю.

— А хто такі Актавіян Аўгуст? А Юлій Цэзар?

— Не ведаю.

— Двойка.

— Пачакайце,— кажа вучань,— а вы Мішку Сідарава ведаеце?

— Не ведаю.

— А Жору Каплюхіна? Таксама не? Ну, дык за што ж двойка? У вас свая кампанія, у мяне — свая.





Настаўнік фізкультуры. Чаму ты, Федзя, так слаба бяжыш на месцы?

Вучань. А вы паспрабуйце мяне пера-гнаць!



У першым класе ідзе ўрок чытання. Пятрок чытае подпіс пад малюнкам па літарах:

— Сы-у-мы-кы-а...

— Ну, і што атрымаецца?

— Торбачка.



Выкладчык тэхнікума пытае ў студэнткі:
— Як будзе будучы час ад дзеяслова «кахаю»?
— Выйду замуж,— адказала студэнтка.



Н а с т а ў н і ц а. Калі ты ўжо, Васілёк, добрыя адзнакі атрымаеш?
В у ч а н ь. А гэта залежыць ад вас.



М і х а с ь. Алё? Гэта школа? Запрасіце дырэктара, калі ласка, да тэлефона.
Д ы р э к т а р. Я вас слухаю.
М і х а с ь. Ваш вучань Міхась Качкін хворы і не можа прыйсці на заняткі.
Д ы р э к т а р. А хто са мной размаўляе?
М і х а с ь. Мой бацька.



— Даўно курыш?
— З дзяцінства.
— А колькі табе год?
— Дзесяты пайшоў.



— Што купіў, кум Іван?
— Паліто. А ты, Сцяпан?
— Новыя боты.
— Замочым?
— Па-а-йшлі.
Выпілі па першай шклянцы.
— Не бярэ, кум Іван, трасца яе матары.
— Давай па другой.
Кульнулі па другой.
— І другая не бярэ, Сцяпане. Давай па трэцяй...
Назаўтра яны прачнуліся пад плотам.
— Уставай, кум Іван, трэцяя ўзяла...
— Што ўзяла?
— Тваё паліто, а мае новыя боты.



Суддзя. Адкуль у вас гэта пэўнасць, што Дзергача падсудны ўтапіў, а не сам ён утапіўся?

Сведка. Бо ў кішэні ў нябожчыка была бутэлька гарэлкі. Каб сам тапіўся, то не змарнаваў бы, а выпіў бы.



П'яны заснуў на дарозе і не чуў, як у яго сцягнулі з ног боты.

Едзе фурман і крычыць:

— Прымай ногі!

А п'яны, зірнуўшы на свае босыя ногі, адказвае:

— Едзь, браце, смела! Гэта не мае, мае ў новых ботах.



Жонка. Ах ты п'яніца, гультай! Зноў прыйшоў дамоў раніцою. Скажы, што б ты рабіў, каб я гэтак позна прыходзіла?

Муж. Нічога. Сказаў бы: ідзі, маё золатца, спаць.



— Братачка, вып'ем яшчэ па чарцы. Бог ведае, калі ўбачымся...

— Выпіць вып'ем, але я цябе і цяпер ужо кепска бачу.

— Чаму гэта ты так многа гэтай гарэлкі п'еш?

— Як многа? Я толькі адну чарку выпіў!

— Дзе адну?! Калі ты пры мне ўжо ажно дзесяць выжлуктаў!

— Дзіўны ты чалавек. Калі я выпіваю другую чарку, дык раблюся зусім другім чалавекам, ну, а другому чалавеку таксама ці ж не трэба выпіць?!





П р а в а д н і ц а. Грамадзянін, калі ласка, не курыце!

К у р э ц. Не хвалюйцеся вельмі — я не ў зацяжку.



Двое п'яных падышлі да вялізнага дома.

— Адсунем?— пытаецца адзін.

— Давай, а то на нашу вуліцу прайсці не дае.

Пнуліся яны пнуліся, аж узмакрэлі, а дом ні з месца.

— Распранёмся?

— Угу.

— Раз-два, узялі! Раз-два, узялі!

Раптам адзін з іх агляну ўся.

— Ну, і далёка адсунулі,— гаворыць ён другому,— ужо і адзежы нашай не відаць.



Аднаго разу прыходзіць п'яны муж дамоў. Жонка, глянуўшы на яго, спытала:

— Ты ўжо, напэўна, і розум прапіў?

— Не-э-э, д-д-даражэнькая, толькі грошы.



Урач, аглядаючы хворага, пытае:
— Гарэлку п'яце?
— А ў вас ёсць?!.



Трое ўваліліся ў рэстаран. Адзін сяк-так да стала дабраўся. Другі на падлогу бразнуўся. А трэці ля парога расцягнуўся.

— Што вам? — пытаецца афіцыянтка ў першага.

— М-м--не наліце сто пяцьдзесят, майму сябру, н-ну, што с-сярод залы ляжыць, т-толькі сто, а т-таму, каторы ля парога ляжыць, н-ні грама не даваць. Гэта наш шафёр. Ён нас п-павінен дадому адвезці.





П'яны вярнуўся дадому, але жонка яго не лаяла, як звычайна, бо спала.

— Гэй, старая! — крычыць ён. — Прачніся ды аблай мяне трошкі, каб не здавалася, што я сёння цвярозы.



Д о к т а р. Чаму гэта ў вас такі чырвоны нос?

Х в о р ы. Бо ем кожны дзень чырвоны боршч, доктар...



Сустрэліся Іван са Сцяпанам.

— Давай вып'ем па кілішку, — кажа Сцяпан.

— Не магу, браце, па трох прычынах, — адказвае Іван. — Па-першае, гарэлка шкодзіць здароўю, па-другое, мне доктар забараніў піць, а па-трэцяе, я п'яны ўжо.



П ' я н ы. Скажыце, дзе жыве Змітрок Канцавы?

— Дык гэта ж вы самі.

— Я ведаю, але скажыце, дзе ён жыве?



Ішоў сабе раз мужык да месца на кірмаш. Ішоў ён, ведама, босы, а боты свае з дзедапрадзеда нанізаў на кій і нёс на плячах, ды так загледзеўся, што (трэба ж няшчасце) надта моцна ўдарыўся нагою аб камень, ажно злупіў сабе з пальца на назе кіпець.

Хоць кроў цячэ і баліць, але ён, узіраючыся на сваю рану, кажа:

— Вось шчасце, што я ішоў босы, а не ў ботах, а то цэлага бота зусім расхвастаў бы.



— У мінулым месяцы вы распісаліся трыма крыжыкамі, а цяпер падпісваецеся трыма колцамі. Чаму гэта?

— Бо тыдзень назад я выйшла замуж, дык змяніла сваё прозвішча.



У вёску прыязджае незнаёмы чалавек. Людзі ў яго пытаюцца:

— Чым займаецеся?

— Я штукар-фокуснік, глытаю агонь.

— Шкада, што вас не было дзесяць дзён таму, як гарэў канец нашай вёскі,— маглі б наесціся ўволю.



Бабулька Тэкля расказвае пра вялікі цуд, які сама бачыла.

— Было гэта даўным-даўно. Сяджу аднойчы адна дома і раптам з'яўляецца старац. «Я,— кажа ён,— цудатворац і магу вам сказаць, што праз некалькі хвілін загарыцца дом». Я перапалохалася. «Што хочаш бяры, толькі зрабі, каб гэтага не здарылася». І што ж вы думаеце — дом не загарэўся.



— Ільін пасля свята прыйшоў на працу выпіўшы.

— А ты адкуль ведаеш?

— Ды ён сам гаварыў.

— Ну, мала што можа нагаварыць п'яны чалавек.



— Адчыні вароты!

— А хто едзе?

— Той, што ўсё ўмее.

— Калі ўсё ўмее, дык няхай і вароты адчыніць.



— Ці табе заяц, а мне баран, ці мне баран, а табе заяц, а такі выходзіць, што мне баран, а табе ўсё ж заяц.



Баба на базары:

— Колькі каштуюць гэтыя гусі?

— Нашто пытаешся? Усё роўна не купіш.

— Няўжо чалавеку і запытацца няможна? Абавязкова купляць.



— Вось, цётка, будзеш даваць гэтае лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.

— А божа ж мой! Дзе ж я вазьму столькі лыжак. У мяне толькі чатыры ёсць.



— Сёння спаткаў вашу жонку.

— І што яна сказала?

— Нічога.

— Гэта была не мая жонка, бо мая не можа маўчаць.



— Як муж? Ці здароў?

— Здароў, але мае клопат з жыватом.

— Што, мо не можа есці?

— Вось у тым і бяда, што есці можа, але няма чаго.



— Ну, калі вас Халімон ударыў першы раз у галаву, дык што было потым?

— Ды што там было. Даў мне трэці раз па твары.

— А другі раз?

— Другі раз я яму сам даў.



— Янук,— кажа карчмар,— дай гусям сена.

— А дзе ж гэта гусі сена ядуць?

— А як жа? Калі траву ядуць, дык чаму б сена не маглі есці?



Селянін. Якія ж ты мне боты зрабіў? Гэта ж падэшвы яшчэ цэлыя, а халявы разляцеліся.

Шавец. Выбачайце! Другі раз горшыя падэшвы вазьму, дык разам зносяцца.



Адна вельмі непрыгожая і ўжо немаладая дзяўчына, убачыўшы жабрака, кліча яго ў хату і просіць:

— Дзядулька, не пашкадую табе сала і грошай, памаліся, каб я толькі сёлета замуж выйшла.

— Ахвяру я ўзяць магу,— адказаў жабрак,— але за малітву не ручаюся...



Частаваў гаспадар цыгана падсмажанай каўбасой і лёгкімі. Цыган увесь час есць то саланіну, то каўбасу, а лёгкага не чапае. Тады гаспадар кажа:

— Еш, цыгане, лёгкае.

— Такі, татуля, і каўбаса не цяжкая,— адказвае цыган.



— Мусіце прымаць жалеза,— радзіць доктар.

— Ах, пане доктару! — кажа, збянтэжыўшыся, хворая.— Я маю такія слабыя зубы, што ледзь хлеб магу жаваць.



Астраном. Чаму сёння ішоў дождж?

Гаспадар. Бо ўчора мая карова была задраўшы хвост на хрыбет.

Астраном. А чаму на хрыбет?

Гаспадар. Бо ведала, што сёння дождж будзе.



Прыехаў селянін у Вільню ды захацеў на мяккай каламажцы праехацца. Падыходзіць да рамізніка і пытаецца:

— Колькі возьмеш, каб праехацца?..

— Тры залатых...

— Ці ты ашалеў? Пусці мяне на тваё месца, дык я цябе і за залатога пракатаю.



Вартаўнік, у часе землетрасення пачуўшы, што вежа дрыжыць, схіліўся ўніз ды крычыць:

— Які там чорт вежу трасе?!



Вельмі хацелася жулікаватаму цыгану мець за кума пасечніка Хаму. Прыстаў як смала, што Хама не мог адмовіцца.

Не паспеў Хама стаць хросным, як да яго ўжо бяжыць кум.

— Кумок, каб ты ведаў,— кажа цыган,— як твой хрэснік расце. Ужо зусім выразна крычыць — мё-мё-мё. Мы яму малака, соску, тагосяго, а ён сваё — мё-мё-мё. «Можа мёду?» — пытаю ў яго. Ён усміхаецца і маркоча — мё-мё-мё.

Напоўніў Хама слоік мёдам.

Назаўтра кум зноў на парозе. Хоць і шкада было, але Хама зноў паслаў хрэсніку пачастунак. Калі праз дзень кум прывалокся на пасеку, то Хама яму так сказаў:

— Няма ў мяне часу з табой важдацца. Вунь на ліпе, бачыш, вулей. Лезь і бяры мёд сам.

Спрытна па лесвіцы ўскочыў на дрэва цыган. Тым часам Хама прыняў лесвіцу. Толькі крануў цыган вулей, як яго абсыпалі пчолы. Ён пачаў кідацца на дрэве, рынуўся ўніз, а лесвіцы няма. Скочыць баіцца, бо высока. Крычыць на чым свет стаіць. Прыбег Хама і пытае:

— Чаго табе?

У цыгана і з галавы выскачыла, як завецца лесвіца. Ён толькі мычыць, ды рукой торкае ўніз. Хама падае яму то сякеру, то вядро, то рыдлёўку. Раней, чым Хама «здагадаўся» падаць лесвіцу, кум грымнуўся ўніз, падхапіўся і задаў лататы.

Больш яго сын не прасіў мёду.



Пыталіся раз сяляне ў цыгана:
— Якой ты, бацька, веры?
— За грошы — якой хочаш.



Царскі суддзя пытаў па-руску ў беларускага селяніна:

— Скажите, каким образом он вас ударил?

— Ды не абразом, а звычайнаю качарэжкаю.



Шавец, аддаючы заказчыку новыя боты, сказаў:

— Тыдні са два вашы боты будуць крыху ціснуць. Не крыўдуйце.

— Э! Нічога, пацярплю. Два тыдні я яшчэ і ў старых пахаджу, а новыя няхай пастаяць.



— Вы нібыта казалі аба мне, што я асёл. Ці гэта праўда?

— Гэта праўда, але я асабіста не казаў гэтага.



— І вы хочаце аддаць сваю дачку за гэтага тыпа? А вы ведаеце, што ён сядзеў чатыры гады ў крымінале?

— Вось як?! Ну і ашуканец! А мне казаў, што ўсяго два гады.




П о п. Чым грашна?

Б а б а. У новай спадніцы прыйшла.

П о п. Я пытаю, чым грашыла?

Б а б а. Была вялікая, дык перашыла...

П о п. Глухая цяцера!

Б а б а. Ну, як няма цяпера, дык заўтра прыйду.



Селянін прыехаў з горада і кажа свайму суседу:

— От жа ў горадзе смачныя булкі!

— А ты каштаваў?

— Ды не, я якраз бачыў, як адзін паніч еў.





Ішоў адзін чалавек, а насустрач яму кум.
— Што вязеш, куме?
Кум злез з воза, падышоў і на вуха шэпча:
— Авёс.
— А чаму ты па сакрэту мне гаворыш?
— Каб конь не пачуў.



— Куме! Як гэта з тэлеграфам робіцца: націснуць на адным канцы, а гавораць на другім?

— Гэта, брат, акурат, як з сабакам: пацягні яго ззаду за хвост, а ён спераду забрэша.



— Чаму ты, дзяўчынка, у такое добрае надвор'е ходзіш пры парасоніку?

— Бо як ідзе дождж, мама забірае.



— Слухай, ты мне прадаў сляпую кабылу.

— Гэта ж табе лепей: яна будзе есці салому, а будзе думаць, што есць сена.



Доктар. Эх, чалавеча, з гэтай хваробаю можна жыць яшчэ пяцьдзесят гадоў.

Хворы. Дык, значыць, пагоршала мне?

Доктар. Чаму?

Хворы. А летась жа вы казалі, што з маёй хваробаю можна жыць сто гадоў.



— Вось, чэрці, зноў на сукно цану панізілі. Тады на пяць працэнтаў, ды цяпер на пяць.

— А ты чым жа незадаволены?

— Дык як жа мне задаволеным быць? Я летась новыя штаны пашыў, каб знаў, пачакаў бы.



— Паслухайце, ваш чамадан ледзь трымаецца на паліцы, ён зараз зваліцца на мяне.

— Не хвалюйцеся. У ім няма ніякіх шкляных рэчаў.



— Як табе падабаецца мая новая сукенка?

— Любата! Твая швачка так шые, што і на калодзе добра ляжыць.



Сусед зайшоў да суседа. Глядзіць, а ў таго да стала навязана курыца за нагу.

— Чаго яна тут? — пытае сусед.

— Ды вось купіў на рынку — суп будзе.

— Дык чаго ж цягнеш?

— А яна з яйкам. Хай знясецца, тады і зарэжу.



— Мне засталося ў спадчыну 1000 залатовак, але мушу аддаць брату 500.

— А дзе ж твой брат жыве?

— У Амерыцы.

— О, гэта далёкі сваяк, хопіць яму і 50.



Кажуць, што некалі адзін мужык, як пайшоў па воцат, дык вярнуўся аж на сёмы год і то ў сенцах паваліўся з бутэлькаю і разбіў яе.

— Вось табе і на,— разважае ён.— Паспех заўсёды людзям на смех.



Суддзя. Чаму вы, грамадзянін, дзвюма бутэлькамі пусцілі ў свайго суседа?

Абвінавачаны. Бо першай не патрапіў, пане суддзя.



— Што гэта ў цябе, Яська, на носе сядзіць?

— Барадаўка.

— Чаму ты яе не звядзеш?

— Нельга. Яна ў пашпарт упісана. За гэта, братка, пападзе.



— Чаму ў цябе, браток, барада чорная, а галава сівая?

— Ну і не здагадлівы! Бо барада гадоў на дваццаць маладзей за галаву.



— Ваш ліст цяжкі, трэба яшчэ дзве маркі прыклеіць.
— Дык ён жа будзе яшчэ цяжэйшы.



Гаспадыня. Трынаццаць чалавек за сталом! Дай жа, божа, каб усё было добра.
Госць. Не бойцеся, пані. Я буду есці за сябе і за чатырнаццатага.



— Язэп, адыдзі ўбок, бо гэты сабака вельмі злы: чуеш, як брэша.
— Ты ж ведаеш, што сабака, каторы брэша, не кусае.
— Я-то гэта ведаю, але баюся таго, што не кожны сабака гэта правіла знае.



— Во дзіва! Я чуў, што людзі з алею робяць каменні. Як гэта яны робяць?
— Што ж тут за дзіва? А як карова робіць малако з саломы і сена?



— Разжывёмся — у пастухі наймёмся, дык цэлая вёска ў даўгу будзе.



— Куме, састарыўся ўжо ваш сабака, ледзьве ногі валачэ.

— Ого, куме, каб вы яшчэ гэтак гаўкалі, як ён.



— Разумееце, мой знаёмы на мінулым тыдні, зяваючы, вывіхнуў сабе сківіцу.

— Што ж вы яму такое нецікавае расказалі?



— А ведаеш, я гаварыў з самім царскім генералам.

— Ну і што ён табе сказаў?

— Адыдзі ўбок, дурань.







Віншую вас з Новым годам і зычу ўсяго найлепшага: каб вы мелі дзесяць дамоў і ў кожным доме па дзесяць кватэр, а ў кожнай кватэры па дзесяць пакояў, а ў кожным пакоі па дзесяць ложкаў і каб... вас трасца перакідала з аднаго ложка на другі.



— Як пазбыцца чужых курэй у сваім агародзе?

— Падкінуць пад плот у сваім агародзе колькі яек, каб суседзі не бачылі, а пазбіраць іх так, каб суседзі бачылі.



— Нешта наш конь захварэў, не п'е зусім.

— Дык вы яго ў валасныя старшыні выберыце, адразу піць пачне.



— Лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці,— кажа сусед Пятрук, а сусед Янук адказвае:

— З разумным ніколі не згубіш, а з дурнем ніколі не знойдзеш.



Лісіца паклялася, што не будзе есці птушынага мяса, аб'явіла сябе святой і пайшла ў манастыр. Па дарозе, на загуменні, ёй сустрэўся гусак, ён выцягнуў шыю і засіпеў на лісіцу. Нядоўга думаючы, лісіца схапіла гусака за горла і задушыла.

— Што ты робіш?! — закрычаў з дрэва шпак, бачачы такое злачынства.— Ты ж паклялася не есці птушынага мяса.

— А няхай не сіпіць на святую! — адказала лісіца, хрумстаючы гусіную лапку.



Дзядзька Апанас любіць размаўляць сам з сабою. Аднойчы ў яго запыталіся:

— Чаму вы размаўляеце самі з сабою?

— З добрым чалавекам добра і пагаварыць,— адказаў дзядзька.



Зайшоў аднойчы шавец да доктара і пачаў скардзіцца на свае хваробы.

— А што ў вас баліць? — пытаецца доктар.

— Усё баліць. Вочы быццам клеем памазаны, язык стаў як падэшва, у горле не інакш як цвікі забіты, у жываце быццам дратваю сцягнута, у вушах як хто шылам пора, ды і ўсяго быццам на капыл нацягнулі...



Наведвальнік. Афіцыянтка! Што ў вас робіцца?

Афіцыянтка. А што такое?

Наведвальнік. Глядзіце, нітка ў суп трапіла...

Афіцыянтка. А вы што хацелі — каб вам цэлы касцюм паклалі.



Адзін скнары чалавек сасніў, што прадае гуся і просіць за яго пяць рублёў, а яму даюць толькі два. З-за гэтага ён прачнуўся, але хуценька заплюшчыў вочы і сказаў:

— Добра, давай хоць рубель, толькі хутчэй...



Чалавек заседзеўся ў гасцях. Гаспадар выйшаў яго праводзіць:

— Пачакай, я табе пасвячу, а то ў мяне высокі ганак і паламаны.

— Дзякуй,— адказаў госць з зямлі.— Я ўжо і без асвятлення гэта адчуў.



Доктару-псіхіятру шавец прынёс адрамантаваныя боты.

— Колькі за рамонт? — пытае доктар.

— Восемдзесят рублёў.

— Восемдзесят рублёў! — усклікнуў доктар.— Вы псіхічна хворы. Вас трэба агледзець. Хадземце са мною ў кабінет.

Шавец, збянтэжаны строгім голасам доктара, пайшоў за ім.

Доктар закончыў агляд і сказаў:

— Можаце быць спакойны. Вы нармальны чалавек. Давайце разлічвацца. Я вам, здаецца, вінават восемдзесят рублёў?

— Так, так! — павесялеў шавец.

— А за агляд хворага я бяру сто рублёў. Так што вы павінны даплаціць мне дваццаць.



— За што вы лаецеся, цётка?

— Як за што? Лыжка прапала, а ты яму маўчы, таўкачу гэтакаму!..

— За лыжку?! Дык ёй жа ўсяго тры капейкі цана!..

— А палаяцца мне ні граша не каштуе!



Гаспадыня. Прывітанне, дарагі Васіль Пятровіч! А дзе ж ваша жонка?

Госць. Разумееце, мы цягнулі жэрабя, каму да вас ісці.

Гаспадыня. Ну, і вы выйгралі?

Госць. Не, я прайграў.



Клоун на арэне глытае іголкі. З залы чуваць з'едлівы голас:

— А вы ж раней шпагі глыталі!

— Глытаў, а цяпер я на дыеце,— адказаў клоун.



— Пятро Хведаравіч, ці збылася хоць адна ваша дзіцячая мара?

— Збылася! Калі мяне ў дзяцінстве цягалі за валасы, я вельмі марыў стаць лысым.



— Мама, я цвёрда вырашыла выйсці замуж толькі за салдата: ён умее шыць, цыраваць, мыць і, галоўнае,— бездакорна выконваць загады.



Прыйшла суседка да хворай суседкі.

— Я ўжо дзве гадзіны гутару з табою, а ты ні разу не застагнала.

— А, мілая, я вось з табою так загаварылася, што і стагнаць забылася.



— На фронце, бывала, як пачну рэзаць, сячы, крышыць — аж дым ідзе.

— Вы, напэўна, кавалерыстам былі?

— Ды не-э-э... Кухарам.



Аднаму селяніну патрэбна было паслаць пісьмо ў Слуцк, і ён папрасіў свайго суседа напісаць адрас.

— Слухай, адказаў сусед,— давай лепш напішам у Оршу: я вельмі прыгожа пішу літару «О».



— Ну, што пісаць?
— Пішы, што мы жывы і здаровы.
— Болей што?
— Больш нічога: ён хітры — здагадаецца.





— Тата, купі мне вось гэтага сабачку.
— А колькі ён каштуе?
— Восем рублёў.
— Дык няхай ён лепш здохне.



— Даў бы вам, дзеткі, па яблычку, ды торба, бачыце, завязана.



Ідуць два падарожнікі. Насустрач ім жанчына.

— Ці далёка да вёскі? — пытаюцца яны ў жанчыны.

— А так што яшчэ кіламетраў дзесяць будзе.

На тварах падарожнікаў быў такі адчай, што тая вырашыла іх суцешыць:

— Нічога, хутка даберацеся. Калі б давялося аднаму ісці... а так на двух падзеліцца... па пяць кіламетраў. Гэта не так і многа...



— Спадзяюся, што ваш сабака не кусаецца.

— Кусаецца, але не бойцеся — ён вельмі пераборлівы.



Выйшаў адзін спявак у тэатры на сцэну спяваць жаласлівую песню. Спявае ён і аглядаецца, ці не разжаліцца хто. Ажно бачыць: у самым куточку стаіць бабка і плача. Скончыўшы спяваць, збягае спявак са сцэны, падыходзіць да бабкі і пытае:

— А чаго ж, бабка, ты плакала?

— А мой сыночак! Як жа мне было не плакаць, калі ты спяваў якраз, як мая каза бляяла, калі яе воўк рэзаў.



У трамваі ехала жанчына з цяжкай сумкаю. Людзей у вагоне было шмат, і ні адзін мужчына не ўступіў ёй месца. Нарэшце адзін мужчына паклікаў яе пальцам. Калі тая нахілілася, ён прашаптаў:

— Я сыходжу праз адзін прыпынак... Дык вы не пазявайце.



— Ты будзеш есці ўчарашні крупнік?
— Буду.
— Ну, дык прыходзь тады заўтра.



Аднойчы на нарадзе пайшчыкаў старшыня праўлення сельпо запытаўся ў аднаго з удзельнікаў:

— Як ваш прадавец?
— Нічога сабе...— адказаў той.
— А ваш? — звярнуўся ён да другога.
— Так сабе...
— А ваш? — спытаў трэцяга.
— Усё сабе...



— Разумееце, не можам прыняць вашага сына ў музычную школу.

— Чаму?

— Слыху няма.

— А божачкі ж! Няўжо аглух? Учора ж ён яшчэ ўсё чуў.



— Ведаеш, бабуля, некаторыя вучоныя даводзяць, што сонца патухне праз 80 мільярдаў год...

— Як ты сказаў, праз колькі?..

— Праз восемдзесят мільярдаў.

— Ах ты блазнюк, як напужаў. Мне здалося, што праз восем мільёнаў...



— Васіль, ці ты на сабе пранясеш гэты трактар? — жартам пытае пажылы чалавек у маладога хлопца.

— Дзіва што пранясу, дзядзька, — адказвае той. — Толькі мне яго на плечы паддайце.



Шафёр прыпыніў машыну і спытаў у пешахода:

— Скажыце, калі ласка, як мне патрапіць у аўтаінспекцыю?

— Вельмі проста,— адказаў пешаход.— Зрабіце парушэнне правілаў вулічнага руху.



Засталося ў чалавека на галаве толькі тры валасіны. Чалавек прычэсваў іх так: адну валасіну — улева, другую — управа, а трэцюю — пасярэдзіне.

Неўзабаве дзве валасіны выпалі. Засталася толькі адна. Чалавек пачаў прычэсваць яе то ўлева, то ўправа, а яна ўсё не ляжыць. Раззлаваўся ён і кажа:

— Ну і д'ябал з ёю. Надакучыла прычэсваць. Нічога — калі пабуду лахматым.







— Дайце, калі ласка, білет да прыпынку «Боцікі».

— Няма такога прыпынку.

— Чаму гэта няма? Ёсць...

— Вам хіба да прыпынку «Чаравічкі»?

— Ну, так!

— Дык чаго ж вы блытаеце?

— Падумаеш, на нейкую там халяву памыліўся.



Рэвізор. У вас білет на звычайны цягнік, а вы селі ў скоры.

Пасажыр. Падумаеш, бяды той — скажыце машыністу, каб трошкі цішэй ехаў, дый усё.



Аднойчы захварэў шавец і пайшоў да доктара. Той пасадзіў яго ў крэсла і спытаў:

— Што ў цябе баліць?

— Я шавец.

Доктар зноў запытаў, ужо са злосцю:

— Ну, дык што ў цябе баліць?

— Калі мне прыносяць бот ці чаравік рамантаваць, я не пытаю, што яму трэба,— сам бачу,— адказаў шавец.



Доктар пытае ў жанчыны:
— Як сёння адчувае сябе ваш муж?
— Добра.
— Еў што-небудзь?
— Крупнік.
— З апетытам?
— Не, з морквай.



— Ну, што табе цыганка наваражыла?
— Што хутка буду мець непрыемнасць.
— Не вер гэтаму.
— Дзіва — не вер! Як толькі яна выйшла, я адразу ж спахапілася, што няма гадзінніка.



Вёз мужык капусту прадаваць. Конь спудзіўся. Калёсы абярнуліся, і качаны раскаціліся ў розныя бакі. Мужык зірнуў на ўсё гэта ды і кажа:
— Во д'яблы — што ні галоўка, то і розум.



У шафёра, які пацярпеў аварыю, спыталі:
— Чаму вы так хутка ехалі, вы ж казалі, што ў вас тармазы сапсаваныя.
— Як гэта, чаму? — адказвае той.— Хацеў яшчэ да аварыі ў гараж паспець.



Адзін яфрэйтар вельмі прасіў камандзіра дазволіць яму хоць пяць хвілін пакамандаваць палком.

Нарэшце камандзір дазволіў. Тады яфрэйтар павярнуўся да яго і скамандаваў:

— Таварыш палкоўнік! Вы застаяцеся замест мяне камандаваць палком, а я паеду ў адпачынак.



Сусед выцягнуў з рэчкі зубнога ўрача, які пачаў тануць.

— Дарагі чалавеча,— пытаецца пасля ўрач,— як жа табе аддзякаваць, што выратаваў мяне?.. Прыходзь да мяне,— падумаўшы, кажа,— я табе ўсе зубы без чаргі павырываю.



— Эге! А стрэльбачка занадта ўжо аддае!..

— Вось бы і вы бралі прыклад са сваёй стрэльбы. А то пазычылі ў мяне 20 рублёў і па сённяшні дзень не аддалі.



Аднойчы узышоў салдат на мост у раёне манеўраў. Другі салдат, які ахоўваў мост, крыкнуў яму:

— Куды ты ідзеш?! Гэты мост умоўна ўзарваны!

Першы салдат, не задумваючыся, адказаў:

— А я і не іду. Я ўмоўна плыву.



— Паважаны грамадзянін, ваш сабака ўкраў у мяне цэлы кілаграм мяса.

— Дзякую, што вы мне гэта паведамілі. Я сёння не дам яму есці.



— Еш, кумок, клёцкі. Я ж іх не лічу — сама гатавала.

— Дзякуй, кума, ужо і так чатыры з'еў.

— Няпраўда, кумок,— шэсць.



Машыніст рэзка затармазіў цягнік. Пасажыр, які спакойна драмаў, зваліўся з лаўкі і прамовіў:

— Во гэта дык упаў — аж цягнік спыніўся.



— Што, табе лектар не падабаецца?

— Лектар нішто, добры, а вось крэслы — нязручныя, ніяк заснуць не магу.





Жанчыну, якая начапіла на сябе аж дзве лісіныя шкуркі, спыталі:

— Нашто вы столькі лісаў павесілі адразу?

— Чым больш лісаў, тым больш паляўнічых,— адказала тая.



— Калі цябе яшчэ запрасіць на абед? — запытаўся гаспадар на развітанне.

— Хоць і зараз! — усклікнуў госць.



Зайшоў неяк Мікіта да свайго сябра, з якім даўно не бачыўся. Пагаварылі пра тое-сёе, час і развітвацца.

— Як ты не ў час прыйшоў, дружа! — паспачуваў гаспадар госцю.— Каб раней, дык паснедаў бы, пазней — абедаць у пару. А так — прабач.



— Чаму ты перад сном прычэсваешся?

— Трэба. Бывае, убачу сон, што я ў гасцях, дык сорамна будзе непрычэсанаму.



Заспрачаліся неяк два разумнікі, каго называюць дурнем.

Вось першы і кажа:

— Дурань — гэта такі чалавек, які не можа выказаць сваю думку так, каб яго зразумеў іншы. Вы мяне разумееце?

— Не,— адказаў другі.



— Мушу вам сказаць, што ваш сабака зноў усю ноч пад маім акном выў і брахаў.

— Не хвалюйцеся! З ім нічога не станецца: ён днём выспаўся.



Аднаго разу сядзелі купцы ў двары селяніна. Гаспадыня выйшла з хаты, а хлапчук яе пачаў плакаць. Крычаў, пакуль не змарыўся.

— Ну, дзякуй богу, перастаў,— кажа адзін купец.

А хлапчук, пачуўшы гэта, адказвае:

— Ага, перастаў. Адпачну і зноў буду.



Доктар. Калі хворы быў яшчэ пры памяці?

Удава (*плачучы*). За гадзіну перад смерцю.

Доктар. А па чым вы ведаеце, што ён быў пры поўнай памяці?

Удава. Ён аблаяў вас і ваша лякарства.

На белорусском языке. Белорусские народные шутки. Издательство «Беларусь».
Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар А. Кудравец. Мастакі І. Бліох, Б. Забораў, Ул. Зуйкоў. Мастацкі рэдактар М. Шырокаў. Тэхнічны рэдактар Я. Шляшынская. Карэктар Л. Тавачэнка. АТ 22 801. Здадзена ў набор 2/VI 1969 г. Падп. да друку 30/VII 1970 г. Тыраж 16 000 экз. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера для гл. др. Ум. друк арк. 5,85. Уч.-выд. арк. 4,65. Зак. 1767. Цана 35 кап. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.

7-3-3
―――
121-69